УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
М25

**Марцінш душ Рэйш, В.**
М25 Мора Мары : вершы / Ванда Марцінш душ Рэйш. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 136 с.
ISBN 978-985-7227-36-5.

Паэзія Ванды Марцінш душ Рэйш дужа рэдкая, а ў наш «камунікабельны» век дык і зусім анамальная з’ява. Ходзіць пра тое, што свае вершы Ванда Марцінш праз усё жыццё пісала, як казаў той, «у стол», «для сябе», «для душы», не ўважаючы іх за творы, вартыя надрукавання. Пісала ў абсалютнай ізаляцыі ад сучасных літаратурных працэсаў у Беларусі, паэтычных школ і кірункаў, арыентуючыся хіба на беларускую й замежную класіку. І, як мне здаецца, гэтая «ізаляцыя» толькі пайшла ёй на карысць. Калі я ўпершыню ўчытаўся ў творы паэткі, дык мне падалося, што я чытаю нейкую «прапушчаную» мною старонку беларускай класікі. Здзівіла некранутая свежасць вершаў, жыццярадаснае, такое рэдкае ў наш час, светаўспрыманне, сакавітыя, «барочныя» фарбы. Паэтка мае сваю манеру пісьма, надзеленая тонкім лірызмам, надзвычайнай назіральнасцю і толькі ёй уласцівым досціпам, самаіроніяй. Асабліва ўразілі пейзажныя вершы паэткі: некаторыя з іх выглядаюць, як «хрэстаматыйныя», здалося, што я ўжо некалі «праходзіў» іх у школе. А што да апісанняў акіяна і мора, дык мы, на мой досвед, маем ці ня першую ў айчыннай паэзіі паэтку-«марыністку». У асяроддзі партугальскіх і шатландскіх краявідаў, архітэктуры, культуры, традыцый, гісторыі (дзе паэтка правяла немалую частку жыцця) яна пачувае сябе «па-свойску», утульна, у гармоніі, што таксама вельмі рэдкі дар. Але пачытайце самі…

*Алег Мінкін*

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-36-5**



## Сонца і цень

*Ёсць жывыя істоты, што любяць*
*Прахалоду, зацішак і цень.*
*Іх пужае прастора й пагубіць*
*Зіхатлівага сонца прамень…*

Раскашуе асцілбла ў цянёчку,
Поруч з ёй першацвет, аканіт
І блакітныя ззяюць званочкі
У вячыстай лясоў глыбіні.

Як прыжыцца мне тут? А хацела ж
Быць падобнай да іх, хоць ты плач:
Не прымулка я, нават не ландыш,
А тым больш — не сібірскі касач.

Растучы на пагорку, на сонцы,
Абдзімае мяне вецярок,
Паўстаюць краявіды бясконца:
Тут дуброва, там выган, ярок.

У спякотным сваім заняпадзе
Прагна смокчуць ваду карані…
Я і ў Бога, у райскім садзе,
Не змагла б так вось жыць — у цяні!

*Ёсць жывыя істоты, што любяць*
*Прахалоду, зацішак і цень.*
*Іх пужае прастора й пагубіць*
*Зіхатлівага сонца прамень…*

## Позняя вясна

Квецень без кветак, лес без зязюлі,
Шэрае неба і дол,
І каташкі на вярбіне заснулі,
Дрэмлюць галінкі і ствол.

Шпарка бяжыць ад зімы ашалелай
Рой апанураных хмар.
Снег адступіў, і пад небам здранцвелым
Голы шарэе папар.

Граюць няспынна на скрыпках чакання
Нейкія горыч і жаль…
Марна гадаеш: ці ўспыхне каханнем
Зноўку жыццёвая даль?



## Вясна-пераможніца

Пераможніцай выйшла нарэшце вясна —
Тут зіма гаспадарыла лішку.
Разбудзілі лазу ад зімовага сну
Жаўтаватыя вербаў пупышкі.

Пралятае таропка, нібы на пажар,
Ветрык цёплы праз вёску і гоні.
На гародчык увесь разліваецца жар
Чырванеючых сцёблаў півоні.

Ля падмурка на сонейку грэецца кот,
І ў ва сне пазяхае салодка.
Аж вібруе ад дробнага тупату плот —
Вераб’і выбіваюць чачотку.

Ясны дзень у нябыт памаленьку ідзе,
Як адвеку прызначана лёсам…
Я паклясца магу — не бывае нідзе
Больш чуллівых і казачных вёснаў.

## Пачатак вясны

Капеж з падстрэшкаў сотняй бубнаў…
Гляджу я ўпотай з-пад рукі
Як ад агрузлых замкаў-гурбаў
Бягуць гулліва раўчукі.

Яны бруяцца жартаўліва,
Гарэзы, пасланцы вясны…
Адкуль-жа гэты плач жаллівы,
Ці то жалейкі, ці зурны?

Ды гэта-ж плач душы збалелай:
Сярод замежнае тугі
Адзінае, што ёй бялела —
Рачулкі ў пене берагі.

У далечы надзеі ветразь
Ззяў, ды пакінуў сіратой,
І абдзімаў мне слёзы ветрык
Паўднёвы, цёплы, ды не свой.

Глытае снег праталы лапік.
Трапечуць ценяў матылькі…
Як караблі з чужых галактык
Дамоў вяртаюцца гракі.



## Сакавік

Кахаць, смяяцца і гарэзіць
Нас спакушае сакавік,
А ўсё былое перакрэсліць
Як непатрэбны чарнавік.

Іграе кроў, бы ў дрэвах сокі,
І гоніць прэч зімовы сон,
Вазы з надзеяй яснавокай
Вясне ладуе на паклон.

І зноў прывабіць і падмане
Сляпая вера ў міражы.
Ды кожны год чысцей гучанне
Мелодыі тваёй душы.

## Вясна ў вёсцы

Вёска раніцой апетытна пахне вяндлінай.
Ажно заходзяцца незадаволеным рохканнем
парсюкі.
Як у грэцкім хітоне ў белай квецені каліна
Пыхліваю кіназоркай пазіруе ў аб’ектыве ракі.

Губляе самалюбная прыгажуня аўтографы-кветкі,
Іх прагна хапае дзюбай заўзяты паклоннік-качар,
Каб асцярожна і беражліва засушыць, і ўлетку,
Як напамінак пра безнадзейнае каханне, палажыць
пад бювар.

Весяліцца ў вадзе адлюстраванне журботнай
асіны.
Драпучай шэрай коткай выгнуў спіну мост.
Буйная жарства, як каштоўныя камяні ў вітрыне,
Спакушае лёгкай і прыемнай перапраўай
наўпрост.

Прыхаваная ад абыякавых вачэй, вонкі рвецца
Прыгажосць так, што ажно трашчаць бакі.
Усё не так, як хацелася б, і не так, як здаецца.
Адзіная рэчаіснасць — гэта галодныя парсюкі.



## Спякотны май

Спякота ўсіх адценняў фіялету,
Бы завітаў лавандавы Праванс —
Сярод пахнючых майскіх бэзу кветак
Чмялі і пчолы спорна танчаць вальс.

Кустоў і дрэваў свежых строяў складкі
Камячыць толькі гонкі ветру прас.
І не паспела сонца прамакатка
Яскравасць фарбаў вынішчыць зараз.

Люстэрка бурай сажалкі за хатай
Казыча — вой! — бярозкі белай ствол.
Тут зелянее нават сітаваты,
Абгрызены бабрамі летась, кол.

Ў падлеску шчыльным рэдкія прагалы
Прыбраны завушніцамі ляшчын.
На дуб, ад доўгай спячкі ачунялы,
Напалі прагна ворагі-хрушчы.

Мастак нябачны быццам фон пакінуў:
Старых ялінаў цёмныя зубцы,
І пачалі ў лугах імжэць і інець
Пушастым снегам белым дзьмухаўцы.

## У чаканні лета

Цешыць вока падраслае жыта,
Гонка вымахаў слёзнік-чальчак,
І як пластыр шарэе забыты
Непасеяных льноў чацвяртак.

Дрозд у гушчы то дражніць Піліпа,
То спрабуе яго ўгаварыць.
Спакушае жаноцкасцю ліпа
Сад, што ў кіпені кветак стаіць.

Хутка лета на зменак прыедзе.
Застанецца яно да жніва…
Хай загадкава свецяць абедзве
Зоркі мне — Беларусь і Літва!

Плесці буду я венчыкі з руты,
Дабяру абярэг з васількоў…
Неспакойны настой і вірутны —
Беларуска-літоўская кроў!



## Чэрвень

Зацягнула смуга, нібы той паясок
Ці срабрыстая ў кветках хусцінка,
За шашою нізінку і дальні лясок —
Даўніны там хаваюцца прымхі.

Хоць яшчэ не развеяўся вобраз раллі,
Тлуста-чорных урobленых гоняў,
А навокал ужо каласяцца палі
Акіянам празрыста-зялёным.

Атачылі, бы шумай, яго берагі
Жаўтавокія ўсмешкі-рамонкі.
На хадулях шыбуе наўпрост праз лугі
Лубін сіні, пахучы і гонкі.

Раскідала па жыце валошкі і мак
Прыгажуня лясная — Дзукія,
А залётны вятрыска іх сцёбае так,
Што гарцуюць, як коні дзікія.

Над суседняй сялібай падняўся бацян,
Мкне кругамі шырокімі ўгору.
А ў паветры лунаюць прыправай жыцця
Птушак спевы і водар чабору.

## Летні палудзень

Слодыч, зачараванне,
Росквіт ціхмянага дня,
Шчодрасці абяцанне —
Гадзіны пасля паўдня.

Ясныя вусны сонца
Засціць дарожны пыл,
Промні зямлю бясконца
Мераць на свой капыл.

Не шамаціць былінка,
Спее цукіняў нутро.
Стканa з шарад хмурынка,
Лёгкая, як пяро.

Кветкі, прачнуўшыся рана,
Апоўдні фліртуюць смялей:
Горача лашчаць парканы
Цені тыгровых лілей.

Горкія успаміны
Дзьмухнуць, як вецярок…
Зробіцца на хвіліну
Сумна мне незнарок.



## Спёка

Залашчыла асфальт да слёз спякота
І месцічам напроч бракуе сну,
Адзінае, што дыхае вільготна
У пекле спёкі — гэта прасціна.

Палае гонта, як у полі макі,
І душыць птушак спеў гарачыня,
З глінянай міскі прагна п’юць сабакі,
Да іх прыткнула дзюбу вараня.

Апальнік-сонца смаліць немілосна,
Над Вілляй танчыць мроіва, як дым.
І неадкладным справам гэтак млосна,
Што задрамалі з глупствамі ў абдым.

## Летняя зліва

Не папярэдзіў, лінуў цёплы дождж.
І нечакана гэтак жа спыніўся.
Скрылькам падбрушша, бы засквары́ў боршч,
Хрушч-небарака ў лужыну ўваліўся.

На сонцы сушаць дрэвы валасы.
Гарлачык выцірае твар наіўны
І жаляцца палеглыя аўсы,
Што ўстаць не могуць пасля шквалу зліўы.

Трасе галоўкай самасейка-мак,
Званочкаў ззяюць чыстыя пялёсткі,
І ластаўка крыштальнай кроплі смак
Спрабуе, лётаючы ўкруг над вёскай.

Ярчэй, бы свежай фарбай, заблішчэў,
Палепшаў свет памыты і шчаслівы,
А ўсё таму, што міма праляцеў
На шпаркіх крылах вецер з летняй злівай.



## Летняя ноч

Ветры пругкія стужкамі ўюцца,
Заплятаюць сады. На зямлю
Зрэдку падаюць з неба і б’юцца
Знічкі з горнага крышталю.

Летніх дрэў зелянкавыя строі:
Хто сукенку надзеў, хто каптан.
Беласнежным празрыстым сувоем
Разаслаўся па вёсцы туман.

Ні людзей, ні жывёл не чувацца,
Ў цёмных вокнах ні яскі агню,
І, абуўшы лазовыя лапці,
Мірна ходзіць між хат цішыня.

Сарамлівасцю першых спатканняў
Ружавее нябёсаў сафіт.
Леры часу нячутнае гранне
Ветразь ночы штурхае ў нябыт.

## Летнія зоркі

Спаўзае з неба сонца неўпрыкмет,
А вечар спакваля мяняе тоны,
І сон бярэ руплівых непасед —
Людскіх клапот і працы марафоны.

Знямелі справы, спрэчак не пачуць,
Абходкі ўсе не побач, а за морам.
Імкнецца ноч, бы ў воўну, завінуць
У злагаду малінавую зорак.

Схаваўся яркі чырвані каснік,
Ірдзеюць толькі руж і памаранча.
На захадзе іх бляск на хвілю знік —
Глядзіш, ужо з другога боку танчаць.

Хоць часам летніх зорак успамін
Душу агнём мінулага апаліць,
Ён толькі водсвет, вугалёк адзін…
Што быць магло — не вельмі ўжо цікавіць.



## Жнівень

Жнівень трэба цадзіць памалу, як грушавы лікёр.
*Рэй Брэдберы*

Жнівень трэба цадзіць, як духмяны напой,
Асушыць да апошняе кроплі.
Захмялеўшы сачыць, як ірдзее павой,
Сохнуць травы і спеюць каноплі.

А начамі падрослымі зноў любата:
Можна піць прахалоду і цішу.
Неба ў зорках, мурчанне ката
Трункам хмельным наліць у кілішак.

Не слабее яшчэ сонца летняга сквар.
Над зямлёй не ляціць павуцінне…
Не імчыце ж у верасень, як на пажар!
Калі ласка, спыніце гадзіннік!

## Жнівеньская нядзеля

Нядзельнага дня нос праблісну́ў кірпаты,
І прагнуць паспаць спрацаваныя хаты.
Аблокі плывуць прасцінай у тры столкі,
А з іх, як дзятва, пазіраюць анёлкі.

Маленькі прыпынак, дзень-роздум, дзень-коска.
І варыць узвар з пераспелага вёска.
Буслы мудрагеляць і клёкаюць важна.
Вавёркі хаваюць набытак пасажны.

Сям'я гарбузоў разляглася ля кузні —
Ледзь-ледзь іх трымае пажоўклы гарбузнік.
І рана яшчэ клапаціцца пра дровы.
Ліст падае толькі… у суп і бабковы.

Хвілінка спакою ў стварэння дзень сёмы,
Скажы, ты мне сябра ці добры знаёмы?
І што там мільгнула з нястрымным імпэтам:
Крыло матылька ці імклівае лета?



## Восень

Грэюць летнім цяплом успаміны.
На двары сузіральны сезон.
Заплутаў паміж гронак рабіны
Драматычны вятроў барытон.

Бляску ўкрас не бывае замнога —
Хутка згасяць яго маразы.
Між ахвяр прыцяжэння зямнога
Крутабокія гарбузы.

З нітак восені ў тон рукавіцаў
Анідзе не знаходзіць ніхто,
І, як яблык, злятае з паліцы
Лістападнае паліто.

Восень неба падкоўдранік перыць —
У блакіце ні плямкі няма…
І ніяк немагчыма паверыць,
Што ўжо хутка надыдзе зіма.

## Зіма дзяцінства

Мінуў занадта цёплы грудзень,
І стаў вазок на палазы.
Прынёс адказна змрочны студзень
Належны снег і маразы.

Страляюць гучна дровы ў печы —
Пякуцца пульхныя бліны.
Цяля прыносяць у запечак
І ставяць кросны да вясны.

Утульна серабрыцца свечкай
На вокнах высвечаны сад.
І ёсць бацькі… І часу рэчка
Праз даль гадоў цячэ назад.



## Першы снег

I

Праз ноч гусіным пухам падаў снег.
Пярынамі прыкрыў абшары гэтымі.
Прагляне сонца ў воблака прарэх —
Усё зайграе срэбрам, самацветамі.

За шэранню амаль не бачна дрэў —
Зіма на іх навесіла карункі.
Сярод двара чарнее толькі хлеў
Загадкавым і змрочным пастарункам.

Няма распраненага лапіка зямлі.
Красуецца бадыль разблёны ў полі,
А на рабіне гронкі і гілі
Суздром змяшалі свой агністы колер.

З мярэжным бокам хмара-карабель
Плыве павольна ў небе ад Чарнятаў.
Калодзежа абмерзлы журавель
Шкрабецца ў дзверы, каб пусцілі ў хату.

II

І не злічу я, колькі раз
Сачыла праз вакно гасцёўні,
Як снег, бы ціснены атлас
Зямлю агортваў стужкай роўнай.

Іскрыўся беллю двор і плот,
Дзе ўлетку палыскалі кветкі,
І на рачны танюткі лёд
Ляцелі лёгкія сурвэткі.

На купы дрэў, кусты і дом
Зыходзіла паволі спячка,
А пліска так трасла хвастом,
Бы безгалосая спявачка.

Дзівіў нячутны бег каня
Праз гурбы белыя, як грудзі,
І варажыла цішыня
На картах вечнасці: што будзе?



## Крыжадзюб

Крыжадзюб (па-расейску «клёст»)
Ад капрызаў стыхій незалежны:
На пярынцы бацькоўскіх гнёзд
Птушаняткам і ўзімку ўлежна.

Праляціць між дубоў і бяроз
Дый у ельнік закіне лыжку:
Свой крывы і загнуты нос,
Каб ураз растрыбушыць шышку.

Ён на дрэвах абрус разлажыў,
Ды ад ранку да цемры жыруе.
Патрыётам ніколі не быў,
Па лясах і краінах вандруе.

Будзе ў нас крыжадзюб свістаць,
Ім не трэба ні мёду, ні пышак…
Толькі б добра штогод павышаць
Ураджаі яловых шышак.

## Паломніцтва

Зноў надзеі абуджанай просінь
Бесклапотна нясе мяне ўдаль,
І прадзе прыбалтыйская восень
Верацёнамі колаў асфальт.

Чараўніца, марапаклонніца,
Ахвярую прадоння багам
Ружы-кветкі, а гэта паломніцтва —
Срэбнапенным марскім берагам.

Раздзімае надзею вятрыска,
Што між соснаў бярэжных зблудзіў:
Мо патрапіць злавіць жыццяіснасць
Мараў нерат, трывалы наўздзіў.



## Мары і рэчаіснасць

Асядлала б я белую хмарку,
Паскакала б азораным небам,
І паднесла б месяцу чарку
На падносе карункава-срэбным.

А яшчэ завітала б у госці
Да багоў вуркатлівага мора,
Запыталася б іх ягамосцяў
Пра сягоння, заўтра і ўчора.

Толькі страх, гэты д’ябал хіжы,
Узваліўся на грудзі, як жорны.
Не прагоніш яго і з крыжам —
Апускаюцца крылы пакорна.

Пацьмянела імкненне да зорак,
Пажаўцелі ветразі мараў,
Баязлівасць, спрадвечны вораг,
Спадцішка наносіць удары.

# Дождж на Мадэйры

## 1. Lisboa*

Лішбоа — дзяўчынка й бабуля, квітненне і восень.
Над Тэжу-ракой сарамлівыя ранкі.
Заспаны трамвай па кварталах развозіць
Касцёлаў на фоне нябёс выцінанкі.

Засмуціць парома гудком развітальным,
Закружыць завулкаў вязьмом гаманлівым,
А ў поўдзень твой позірк такі асляпляльны,
А смех закаханых тваіх гэткі шчаслівы.

Спявае Альфама нязбытнае нешта.
Тут смакаў, фарбаў і кветак кораб.
Тут шмат прыгожых хлопцаў, ды, зрэшты,
Прылашчыць заходні ветрык, што пахне морам.

Нястомна вандруе па горадзе ценем былое.
Над замкам крыжовых паходаў грымоты.
І палымнеюць чароўным агнём пад гарою
Тваёй Маўрарыі ссівелай высокія ноты.

## 2. Любы востраў

Мадэйра, зялёны засмужаны край,
Што хвалі Атлантыкі песцяць,
Мяне, як заўсёды, у госці страчай
Вінам, садавінай і песняй!

---

* Lisboa (парт.) — Лісабон.



Раўнюткі ў штыль акіянскі прастор,
У непагадзь вусцішна енчыць,
Даліны між стромкімі сценамі гор,
Тут скрозь — таямніца і вечнасць.

Загадкаю вабяць тэрасы-сады,
Іх кветкі казурак люляюць.
Тут знойдзеш да кожнай спадобы плады,
Што фарбаў вясёлкай здзіўляюць.

Стагоддзі ў гарах прабівалі хады
Цапамі дажджоў праз каменне.
Віно ў бурдзюках вандравала тады
Ў Фунчал на плячах з прыгумення.

Закінулі шылы свае гарбары
І спяць бестурботна ў пасцелі:
Цяпер за гадзіну адну жыхары
Дамчаць хоць куды праз тунэлі.

Засмужаным ранкам нябёсаў сафіт
Сталіцу абсвеціць узнёсла.
У бухце на якары лайнер стаіць,
А мроіцца ветразь і вёслы.

На рынку, падводны закончыўшы шлях,
Сумуюць марскія пачвары,
Здаецца, свет цэлы ў Мадэйры ў гасцях,
Усмешкі, як кветкі, на тварах.

Сцяжынкі наўсперак бягуць і ўдаўжкі,
Іскрацца расы самацветы,
Мілуе пялёсткаў агонь трапяткі
Вільготнае вечнае лета.

Закончыўся водпуск. Мадэйра, бывай!
Ладую ў валізкі спякоту.
Як я, калі ласка, з журбою чакай
Маіх штогадовых зваротаў.

### *3. Мора Мары**

На беразе мора набуду хаціну
І буду я стому на шпацыр вадзіць,
Упраўна пісаць па начах успаміны
І вершамі палкасць душы халадзіць.

Пад ціхі напеў ружавеючай далі
Завабіць Марфей у пасцель раніцой,
А вецер між скал змеле бурныя хвалі,
Ў кашлата-брунатны бязважкі прыбой.

Расчараванняў і страт анальгетык —
Мора і сну суцяшальны спарыш —
Сэрца загоіць і высвенціць гэтак,
Каб я і далей шчыра несла свой крыж…

На беразе мора набуду хаціну.
Свой верш развітальны, як першы, складу.
І зноў да людзей. Толькі мо напамінам
Кавалачак неба з сабой пакладу.

___

* Мора Мары — «мора» на зваротным баку месяца.



### *4. Адкрывальнікам*
### *і першым жыхарам Мадэйры*

Мараплаўцы, шукальнікі новых зямель,
З крыкам хрыплым і радасным «Terra*!»,
На суровую выспу сышлі з каравел,
За лясістасць назваўшы Мадэйрай.

Пад прыроду падладзілі людзі свой склад.
Над абрывам схіліліся хаты.
Штурмавалі паселішчы горай нашмат
Ураганы-вятры, чым піраты.

Ды рабілася *vida*** цішэйшай штогод,
Па адгор'ях загойсалі козы,
Заваёўніцкім крокам прыйшлі ў агарод
Панаваць вінаградныя лозы.

Астраўляне ўплялі архідэі і мох
Ў край гасцінны і клімат здаровы,
А ў гарыстых далінах адкрыўся разлог
Партугальскае дзіўнае мовы.

### *5. У гавані Фунчала*

Выпраўляліся ў Індыю шляху шукаць
Пэдра Сінтра і Васка да Гама
Вострых спецый, бавоўны, шаўкоў накупляць
І сілком ахрысціць басурманаў.

___

* Terra (партуг.) — зямля, суша.
** Vida (партуг.) — жыццё.

Пазіралі з тугой на яе маракі
З каравэл крутабокіх Калумба.
І не ведалі ў тую пару бедакі
Жахаў тых непакораных румбаў.

Пад лунаючым сцягам прасілі адно
Ў львоў гішпанскіх, і вежаў, і барваў:
З бураў выйсці жывым, а не легчы на дно
У пагоні за прывідным скарбам.

Смерці гідкі і жудасны зведалі пах,
Калі шчэрылі пашчу хваробы,
І не ведалі што: люты голад ці страх
Выварочваў дашчэнту вантробы…

Сёння б'юцца за нафту, металы, АЭС
Паасобку, у звязках, напару:
Хціві Молах пад назвай траскучай Прагрэс,
Як раней, патрабуе ахвяраў.

### *6. Легенды Мадэйры*

Легенды і міфы Мадэйры такія ж прыгожыя і маляўнічыя, як і сам востраў. Мяне асабліва ўразілі два з іх — пра двух маладзенькіх каралёў, аднаго партугальскага, Себасцяна I Жаданага, а другога польскага, Уладзіслава III, старэйшага сына Ягайлы — якія змоладу трызнілі ратнымі перамогамі і славай, а ў сапраўднасці прывялі свае краіны да цяжкай паразы на полі бітвы. Яднае іх і тое, што паводле легенды, яны абодва не загінулі, а апынуліся на Мадэйры.

*Часам бачу ў смузе, як плывуць караблі*
*Заднім ходам з стагоддзяў мінулых,*
*І журботна глядзяць на мяне каралі*
*З караблёў тых даўно патанулых…*



На невялічкім лапіку зямлі,
На цуднай выспе ў акіяне-моры,
Сабе знайшлі прыстанак каралі
Ў сваім міфічным залатым *tempore**

Ім давялося ліха паспытаць,
Глынуць паразы горкай, а не славы..
І шмат гадоў над выспаю звіняць
Легенды рэхам крокі Ўладзіслава.

Ён тут калісьці, кажуць, доўга жыў —
Трымаў яго ланцуг віны і гора.
Хоць па Айчыне роднай і тужыў,
Дадому заступіў дарогу сорам…

А там, на дне, хавае акіян
Падводны востраў-сад зачараваны.
Жыве ў палацы юны Себасцян —
Кароль, што знік у бітве й стаў Жаданым.

Купаецца ў раскошы Sebastião,
Ад зброі і шчыта адвыклі пальцы,
А меч яго ў скале і толькі ржа
Адказам на чаканкі партугальцаў.

Над востравам плывуць за годам год,
А каралі ўсё ўглядваюцца ў далі.
Не ведаюць: краіна і народ
Даўно ім палкі нораў даравалі…

*Часам бачу ў смузе, як плывуць караблі*
*Заднім ходам з стагоддзяў мінулых,*

---

* Tempore (лат.) — час.

*І журботна глядзяць на мяне каралі*
*З караблёў тых даўно патанулых.*

### *7. Дождж на Мадэйры*

Хтосьці вывернуў з неба духмяны ўзвар —
У вакно сыпле дожджыкам спорным,
Надзвычайна цнатліва карункамі хмар,
Як фатой, завінуліся горы.

Велічэзныя лаўры хістаюць вяршкі,
Быццам змоўнікі, ўлева і ўправа.
Прыбярэжныя хвалі ўзбаўтнулі гаршчкі
Перасоленай, збросненай стравы.

Як заўсёды, не спяць пад зямлёю кіты
Ды ад стомы ўздыхаюць глыбока…
І ахвярна губляюць дажджынкі кусты,
Каб вярнуліся сонца і спёка.

### *8. Фунчал*

Урываюцца ў дом вечнага лета пахі —
З кветак і спецый парфуму за так аддае гандляр.
Цешаць рознагалосымі спевамі птахі,
Сціснуты між гатэлямі, пальмаў і бананавых
дрэваў гушчар.

А там, далей, бачу гарэзлівае іскрыста-блакітнае
мора —
Багоў прадоння ўлюбёнага пестуна-гадунца.
Сонца-вершнік промнямі, як залатымі шпорамі,



Выбівае шматы пены ў акіяна — загнанага
жарабца.

Белы горад рассеўся дзівіцца марскімі далямі
У амфітэатры палогіх смарагдавых гор,
І выходзіць, быццам «на біс», аточаны зыбкімі
хвалямі,
Велізарны круізны лайнер — вядучы акцёр.

Далікатна яму ў ладкі пляскаюць крыламі чайкі.
Задаволена б’е ў званы, як у далоні, касцёл.
І такое каляровае і ёмкае жыццё тут цячэ
запаволена,
Быццам на вечнасць атрымала ў Бога дазвол.

### *9. Паказ марскіх мод*

Палымнее ружовым агнём далягляд
Супакоем абнятага мора.
Урачыста зара абвяшчае прагляд
Наймаднейшых сучасных убораў.

Хмаркі гафтамі неба аздобілі, каб
У вадзе паўтарыцца бясконца.
Аксаміт, залатая парча і ядваб
Самацветамі ўспыхнуць пад сонцам.

Швы красуюцца кантам з бліскучых манет.
Рабізна стужкай срэбнаю свеціць.
Як глядзіш, ператворыць ядвабы ў вельвет,
Наляцеўшы ад захаду, вецер.

Гвалтам ловіць зара водных гадаў і рыб,
Каб чароўныя строі надзелі,

Ды, баўтнуўшы хвастом, пахаваліся ўглыб
Сарамлівыя фотамадэлі.

Статкі белых прыручаных хваль-бараноў
Сігануць на пясок вокамгненна.
Як заўсёды магутнай красою ізноў
Заварожыць абшар белапенны.

### *10. На поўначы Мадэйры*

Не наслухацца сэрцам шумлівы прыбой,
Не змарыць краявідамі вочы:
Непрыступнай цвярдыняй са стромай сцяной
Узвышаецца бераг паўночны.

Ярка ззяюць пад сонцам, як з белай слюды
Статуэткі, дамы трох Ламбадаў,
І збягаюць з адгор’яў да самай вады
Сан Вінцэнтэ і Понта Дэльгада.

Дрэмлюць пікі задумлівых гор. За адзін
Зачапілася млява хмурынка.
Падымуся туды, каб на пару гадзін
Стаць свабоднай душой пілігрымкай.

Тут на кожным уступе — у кветках алтар.
Што ні крок — то пячора-капліца.
Прахалода-манашка і ветрык-святар
Просяць шчыра ў цяньку памаліцца.

Навакол ні душы. Чую толькі адно
Мора, лесу і гор пераззвоны…
І фарбуе ў крыніцы ваду, як віно,
Сонца водсвет у колер чырвоны



### *11. Раніцой ва ўзбярэжнай кавярні*

Над кубачкам духмянай моцнай кавы
Віецца пара. Мой заспаны твар
Цалуе сарамліва брыз ласкавы
І спіць яшчэ нахабны дзённы сквар.

Хаваюць горы ў мроіве аблічча,
І толькі цень ад іх паўзе як вуж.
Пітва каўтну я крышачку і звычна
Папраўлю саламяны капялюш.

Няма людзей. Яшчэ не лезуць мухі.
Казёл па схіле скача ці баран?
Саленаватай хваляй аблавухай
Хліснуў наводмаш ў ногі акіян.

Буйным дажджом упалі пырскі ў каву.
Спрэс вымаклі настольніка рагі.
Рудая пена прыўзнялася лавай
І захліснула кубка берагі.

Бадзяюся па розных частках свету,
Шукаю то прыгодаў, то патоль…
А што калі зямное шчасце — гэта
Марскі абшар і ў каве з цукрам соль?

### *12. Плод авакада*

Гайдае вецер авакада,
Плады страсае на зямлю.
Міфічным яблыкам разладу
Ў падол ападыш я злаўлю.

Належыць есці з цукрам, з соллю?
А мо біцьтэйль з какосам збіць?
З кінзой нацерці *guacamole*,*
*Ці maki sushi*** нарабіць?

Не даспадобы дзіўны звычай —
Экалагічныя харчы,
Прадукты свежасці крынічнай
У цуру прыкрую стаўчы.

Загубім ягаду-Персею,
Разбурым кожны вітамін
І замардуем панацэю
Капы хвароб — фітастэрын.

Апроч карыснасці і смаку
Тут філасофіі ядро:
Нягеглы выгляд, нораў мяккі
І непахіснае нутро.

## *13. Цвіце эўкаліпт*

Бываю тут, часцей за ўсё, увосень,
А ў гэты раз прыехала, калі,
Падпёршы вершалінай неба просінь,
Квітнее ў светлым лесе эўкаліпт.

Як струны скрыпкі, і зімой, і летам
Пяюць пад ветрам гонкія ствалы
І ні галінак недзе там, ні кветак
Не ўбачыш, не задзёршы галавы.

З галля ў паветра корсткі пах бруіцца,
Лунае, лезе ў нос і валасы.
Жывым агністым колерам зарніцы
Гарацць ружовых кветак кутасы.

Душу абмыюць гэты свет і водар.
Здаецца, трэба толькі захацець
І ў непагадзь ты зможаш, і ў пагоду
Пад імі, як пад ветразем, ляцець.

І хоць бываю тут часцей увосень,
Як добра, што прыехала, калі,
Падпёршы вершалінай неба просінь,
Цвіце-палае ў лесе эўкаліпт.

## *14. Madeira do meu coração**

Бесперапынна — то тормаз, то газ.
Скрозь — пакручастыя страхі.
Заміж смарагдавых хустак-тэрас
Хатак чырвоныя дахі.

У водблісках сонца слепяць іскрой,
Дражняць вясёлыя шыбы.
Бераг, як быццам пакрыты ікрой
Нейкіх няўседлівах рыбін.

---

* Guacamole — салата, альбо соус на аснове авакада, які сучасныя мексіканцы ўспадкавалі ад ацтэкаў.
** Maki sushi — японская страва, на аснове рысу з воцатам, да якога далучаюць рыбу альбо іншыя морапрадукты, гародніну, радзей — экзатычныя фрукты.

* Madeira do meu coraçãõ (парт.) — Мадэйра майго сэрца.

Рахмана звярынага царства цары
Спяць між глыбокіх далінаў —
Лесам шчацініцца стромай гары
Доўгі загрывак ільвіны.

Прагна глытае чароды машын
Змрочны тунэль людажэрскі.
Кідае якар госць з дальніх краін —
Гмах карабля-этажэркі.

І зачарпнецца сцюдзёнае зноў
З Фонтэш* вадзіцы вядзерца…
Востраў-натхненне, востраў-любоў,
І супакой майго сэрца!

### 15. Вечар ў горнай вёсцы

Прыліпла вёска да схілу.
За ёю — хвоі ды лаўры.
Вятры, наляцеўшы, з сілай
Б’юць у цяснінаў літаўры.

У горнай вёсцы надвечар
Лунае водар лаўровы,
Бы свежым варывам з печы,
Так смачна кружыць галовы.

Тут цемень з вяршыняў сігае
Неяк занадта хутка
І ўсё сабой пакрывае,
Чорнай наміткай цянюткай.

---

* Фонтэш — мясцовасць на поўначы Мадэйры, само слова перакладаецца, як « крыніцы».



З хмаркі нябачнай, як з горкі,
Зачырванеўшы ад спуду,
Парассыпаліся зоркі
Бы залатыя escudo*

Ім у адказ замільгалі,
На дапамогу, вокны.
У машыстовы шалік
Дол завінуўся цёплы.

І выплыў над змрочным лесам,
Цалкам па добрай волі,
Такі вялізазны месяц,
Як больш нідзе і ніколі.

### 16. Раніца на горнай вяршыні

Упартасць сцятая апошніх крокаў —
І вось унізе ўжо бавоўна хмар.
Не даляціць сюды, вышэй аблокаў,
Штодзённасці дакучлівы камар.

Мір і спакой завоблачнага царства,
Бялюткі пух, завоблачны паркаль.
І чары неадвольнага вядзьмарства
Паветра павялічвае крышталь.

З вяршынь уніз сігаюць вадаспады,
Імчаць вады вясёлку да ракі.
Травой аблямаваныя левады —
Дзяўчыны-харашуні каснікі.

---

* Escudo (парт.) — грашовая адзінка Партугаліі на працягу многіх стагоддзяў.

Дзе бег паток згусцелай сёння лавы,
Цяпер загрывак ашчацініў лес.
Вятрыска на ствалах бярэ актавы
З нябачным дырыжорам на чале.

Марской сірэнай кліча ў прорву згуба —
Адно імгненне можа раду даць.
Рудыя горы востраць пікаў зубы
Блакіт нябёс ушчэнт расшкуматаць.

Фарбуе далягляд ружовасць ранка:
Туды бяздумна як анёл плыву,
І хмараў лёткіх лёгкая гайданка —
Віном чакання кружыць галаву.

### *17. Saudade**

Мора выкархнула лодку —
Мабыць, горкая на смак.
Ем мясцовую гаворку
З хлебам, з бульбаю і так.

Слоў збягаюцца ласункі
З вуліц, з радыёнавін.
Падмацоўкай стравы ванню
Прабіётык хатніх він.

Гнала мачыха-нястача
Партугальцаў з родных хат —
На чужыне віўся следам
Горкі смутак — *saudade.*

---

* Saudade (парт.) — моцная настальгія, звычайна па радзіме, альбо блізкім чалавеку. Вымаўляецца, як «саўдад».



Гэты смутак — мой знаёмы,
Надакучлівы, як гнюс.
Зноў збіраю самабранку —
З мовай водарнай абрус.

Тут цяпло і красаванне,
Там зіма і халады…
Птушку ў вырай, краю родны,
Ці адпусціш назаўжды?

### *18. Сон*

У сне вільготны брыз з Мадэйры
Прынёс, абвіўшы паўзямлі,
Бадзёры водар *limoeiro**
І чарназёмны пах раллі.

Залевы шум начной парою
Прадвесцем чуйны сон п'яніць,
Як пачуццё, як хмель напою,
Што люд спрадвеку весяліць.

Працуюць шчыра да знямогі
Сусед і дзевер, кум і сват —
І ў тахт зарухаюцца ногі,
Як быццам ціснуць вінаград.

Душа тугою адзавецца…
Асвеціць памяці прамень
Сярод малюнкаў, мілых сэрцу,
Трапічных дрэў салодкі цень.

---

* Limoeiro (партуг.) — цытрынавае дрэва.

## *19. Мядовыя Мадэйры адвячоркі*

З далёкіх галактычных валасцей
Яшчэ свяціць нам не прымчалі зоркі.
Такой парой я помню найчасцей
Мядовыя Мадэйры адвячоркі.

Агністае заранкі мёд густы
Сцякае рэчкаю духмянай снедзі
На доле раскатаныя лісты
Расплаўленай чырванаватай медзі.

Змяшаўшыся з вадой, брузнее мёд,
Сапе, як звер, варочаецца цяжка,
І хмельнай слодыччу аж зводзіць рот
Згасальных промняў развітальных бражка.

З вячэрняй і да ранішняй зары
Адчынена мёдапрадуктаў крама…
І грудзі мне дзяруць не кіпцюры —
Сціскаюць сэрца прыгажосць і драма.

І ўперамежку мрояцца мне зноў
Завілістыя выгбы *карэтэйры**,
Сімфоніі раз’юшаных вятроў
Ў варганах скал на поўначы Мадэйры.

---

* Carreteira (парт.) — дарога, шаша.



## *20. Настальгія па Мадэйры*

Сакавік абвінае сядзібу
Кашамірам падманлівым хмар,
Не здаецца зацяты адзімак,
Бляхай грукае вецер-страхар.

Толькі песень нядаўніх водгук,
Чарнавокіх спакус віхор
Затрымалі душу ў палоне
Сярод думных левадаў і гор.

Там цвітуць архідэі і макі
І шуміць эўкаліптавы гай,
Лашчаць горныя вадаспады
Муравісты-карункавы край.

Там, забыўшыся на рэчаіснасць,
Саматужніцтва заняпад,
Працавітыя залаташвачкі
Расшываюць «плывучы сад».

Там, зашыўшыся ў вінаграднік,
Без дазволу, вядзьмак-ветравей
Накануе багатыя гронкі
Па арэлях духмяных завей.

Згіне лета, і восень пагоніць
Срэбным ранкам вазы на кірмаш…
Звонкай чаркай і роднай *семільяй**
Прычасціцца мясцовы бульбаш.

---

* Semilha — бульба (на мясцовым дыялекце).

# Постаці

## *1. Флорбела Эшпанка*

Цёмны позірк — агонь і загадка.
Бледны твар, як слановая косць.
Пры жыцці празывалі «вар'яткай»
Так заўсёды з паэткамі ёсць.

Пра жаданні жаночага цела
У твой ханжаскі век ні гу-гу —
Праз жыццё на душы накіпела
І абрала сястрою тугу.

Маскі лёсу, трывогі, пакуты,
Кніга смуткаў, фартуны рука…
На расцвілую пустку атрутай
Пралілася зласлоўя рака.

Душ чужых непрыступныя вежы
Білі здрадай у чысты запал,
І жаданы, амаль непазбежны,
Лёгкім збаўцам прыйшоў веранал.

Іншых дзён папярэднік! Заранка!
Разагнаўшы мінулага гнёт,
Як сучасны, Флорбелы Эшпанкі
Хуткіх крыл страказіных палёт!



## *2. Творца і твор*

Паэт Камоэнс быў арыгіналам.
Шляхетны род прыйшоў у заняпад.
Ні грошай, ні знаёмстваў не ставала.
З дрыгвы пазык на свет глядзеў з-за крат.

Кахаў кабет, ці біўся на дуэлі —
Усё ўпляце ў санет, ці мадрыгал.
На жаль, яны амаль не ацалелі,
Бо межы ўсе крышыў яго запал.

Упарта не ўсміхалася і ўдача —
Выгнаннем сталі Гоы берагі.
Падступны лёс яго праклуяў няйначай
Гадамі недаверу і тугі.

Памёр манарх, сканала шмат урадаў,
Народ сваім жыццём будзённым жыў,
А ён усё пісаў «Луізіяды»
І ўрэшце мову новую стварыў.

Згубілі цот-няцот гадоў лічылкі.
Асела з цягам часу плётак муць.
Даўно забыліся яго памылкі,
А словы бессмяротныя жывуць.

Чытаю зноў паэму летнім ранкам.
Ці ноч яшчэ? І веру: ўсё адно
Крывым *fidalgo**, дзіваком-каханкам
Пастукае Камоэнс у вакно.

---

* Fidalgo (партуг.) — шляхціц.

### 3. Паблу Неруду

Не прыходзьце ў госці адранку,
Бо мяне не знойдзеце ў хаце.
Калі ўбачыце праз фіранку —
Гэта прывід, вы так і знайце.

Я ў палоне ў Паблы Неруды.
Выспа Чорная, Араўканія,
Кардэльеры і іншыя цуды
Тут апеты яго настальгіяй.

Заваёвы, здрады і змовы
У званы нянавісці білі,
Ды былога ворага мову
Як сваю аблашчыла Чылі.

Пакручасты быў шлях і горкі.
Не змясціць галоваў на блюдзе.
Выбіў стрэл пяро з рук у Лоркі,
Хвалі вынеслі брату — Нерудзе.

Не прыходзьце ў госці надвечар.
(Пагражаюць мне гнеў і апала).
Я з нерудаўскай кніжкай навечна
У чылійскіх джунглях прапала.

### 4. Ізабэлі Альендэ

Не паспела ў сваіх разабрацца —
Паўкапы Радзівілаў, Календы —
Ды падкінула новую працу,
Як гару, Ізабэль Альендэ.



Не пужала кніг зарападам,
Не душыла мрояў рэчдокам,
Нияк ведала — з перакладам
Ля вітрын я праходзіла бокам.

Мо тады яшчэ шмат летуцела?
Можа нанач аб'елася салам?
Невыцерпна, як піць, захацела
Пазнаёміцца з арыгіналам.

*Ola, mar, coronel, montaña,*
*Agua, árbol, caballo y tierra…**
У кожным слове хваляў гучанне,
Рэха гулкае Кардыльераў!

Што забылася родных спеваў,
Апрача вясковай гавэнды,
Што з гішпанскім хаджу «налева»,
Тут віна Ізабэлі Альендэ.

* Хваля, мора, палкоўнік (ссылка на бясконцыя грамадзянскія войны), гара, вада, дрэва, конь і зямля…

# Я гэты край не назаву чужынай

## *1. Па дарозе з Лондана ў Эдынбург*

Світанак. Біты шлях ляжыць на поўнач.
Пагоркі ў нерат ловіць краявід.
Мяжа. Сусед дзікі і непакорны
Жыве спрадвеку за ракою Твід.

Збягаючы з пагаслага вулкана,
Прылёг ля мора стольны горад тут,
І прывіды, як воблакі, крадуцца
Па Каралеўскай мілі ў Холіруд.

Загадкава мігае кветка-сімвал —
Калючы і буйны чартапалох.
Ля замка па вясне сады квітнеюць
Там, дзе шумела возера Нор Лох.

Праз Новы горад, Мачманд і Крэйглохарт,
Уверх, уніз і жвавай рэчкі ўздоўж,
Такі касы, краплісты й несканчоны
Пад парасоллю ў кратку крочыць дождж.



## *2. На ўзбярэжжы Water of Leith**

Стромкай лесвіцай збегчы ўніз.
Задуменна прайсціся ля рэчкі.
Угары толькі дрэў карані,
Ды касцёлаў каменныя свечкі.

Кірлі галасны зладзілі хор —
Ад натхнення ахрыплі спявачкі.
У затоцы абедзенны збор:
Там жыруюць стракатыя качкі.

Вежы замкавай клічнік-абрыс,
Быццам неба над горадам, шэры.
Вецер з мора не спусціцца ўніз
І ад роспачы грукае ў дзверы

Згаладнелая хебра варон
Мабыць ладзіць набег на гароды.
За гульнёй раззалочаных стронг
Пільна сочыць гурман-зімародак.

То прымроіцца бровар, то млын
З даўніны невыказна далёкай.
І бруіцца крыштальная плынь
Ад чужога схаваная вока.

Госць рачных быстракоў і заток,
Не магу я ніяк надзівіцца

---

* Water of Leith (анг.) — рэчка, якая перасякае ўвесь Эдынбург. У часы Прамысловай рэвалюцыі тут была сканцэнтраваная большасць мануфактур горада, і яна была вельмі забруджаная. Цяпер гэта зноў вельмі чыстая і прыгожая рэчка, якая з'яўляецца домам для мноства відаў дзікіх птушак і рыб.

На глухі, нечапаны куток
Ў самым сэрцы шатландскай сталіцы.

### *3. Portobello**

На цэлы дзень паеду ў *Portobello*.
Чамусьці ноччу сніўся гэты пляж.
У сне пясок здаваўся чыстым, белым —
Льняным сувоем слаўся ён наўсцяж.

Яго я з долу брала поўнай жменяй.
Плыў з сіняй далечы пунсова-белы брыг.
А нада мной пад хваляў шалахценне
Лунаў пранізліва-трывожны кірляў крык.

Маўчала мхом пакрытае каменне,
Што быццам хтосьці зверху нашпурляў…
Так і стаяла ў светлым задуменні,
Пакуль сцюдзёны вецер не працяў.

Хаджу я ў сне па пеннай аблямоўцы.
Усё кругом паружавела так…
Заранак вінаваты ў афарбоўцы?
Ці гэта нейкі omen**, нейкі знак?

* Portobello (ang.) — прыгарад Эдынбурга, слынны сваім прыгожым пляжам.
** Omen (анг.) — прадвесце.



### *4. Манумент Вальтэру Скоту*
### *(Edinburgh, Princess Street Gardens)*

Бесклапотна прылягу ў траву
Занатоўваць аблокі, а потым
Паспяшаюся на рандэву
З паважанейшым Вальтэрам Скотам.

Ламермурскай нявесты* душа-матылёк,
Рамантычныя казкі і былі..
У нагах дрэмле хорт і цямнеюць здалёк
Манумента гатычныя шпілі.

Тут узімку і ўвосень марскія вятры
Шчодра дораць лядзяныя ласкі,
А вясною пасуцца ля самай гары,
Быццам зайчыкі, першыя краскі.

На імгненне адно пазайздрошчу я ім —
Кліча збрыдлая праца-нудота.
Да наступнага дня, ненадоўга зусім,
Развітаюся з Вальтэрам Скотам.

### *5. Шпацыр ля канала*

Сёння зранку імжыць, але дождж — не бяда:
Не прывыкла стыхіяў пужацца.
Побач з домам канал. Я і дум чарада
Вузкай сцежкай выходзім на шпацыр.

* «Ламермурская нявеста» — гістарычны раман Вальтэра Скота.

Следам цягнецца з намі паволі на шлюз
Паплавоў аксамітная капа.
Схіл канала пад дзіўнаю назвай «Саюз» —
Муравістае крэсла-канапа.

Размалёўвае зарасцяў квецень-жаўток,
Быццам сонцам, пагоркаў вяршыні,
І хапаюць за крысы, ледзь ступіш убок,
Кіпцюрыстыя лапы ажыны.

Прашываюць раўнютка насамі туман
Хуткакрылыя лодкі-байдаркі.
Нерухомая баржа — цяпер рэстаран —
Сушыць посуд бліскучы на карку.

І не ведаю я, што мне дождж напяе,
Бо ж управіўся, як з палівачкі.
Дзе блукаць будуць вузкія сцежкі мае?
Што яшчэ мне нагвагаюць качкі?

### *6. Канец зімы ў Шатландыі*

Зліваюцца шэрыя неба і мора,
На зябкія дрэвы лье дождж, як з вядра,
І ўсхліпваюць мокрыя дуды-валторны —
Іх разам з дажджом ахапіла хандра.

Зялёны ад вільгаці камень-пясчанік
Будынкаў. На плітах — лішайнік і мох.
Ўгары над скалой кружыць замак-знішчальнік.
Здаецца, вось-вось збіты грымнецца ў *loch**.

* Loch (шатл. дыялект) — возера.



Шыбуе праз кельцкія могілкі вецер.
Скавыча ў кустах. Цёмнай ноччу не спіць.
Варожыць на высахлых бэзу суквеццях:
«Чакаючы лета, што далей рабіць?»

Цярпець. Абдзімаць на вакне арабескі
Рашотак. Як неба спарожніць купель,
Сагрэўшы душу і палац каралеўскі,
На стромых узгорках цвіце жаўтазель.

За кветкамі ўслед замігціць *esperanza**.
У гэту пару верыць можна ўсур'ёз
У цуды і монстра, што мірных шатландцаў
З турыстамі разам тут водзіць за нос.

### *7. У прадчуванні вясны*

Чакаю — прыйдзе сакавік гучнагалосы,
Пралесак вочы засінеюць з небыцця,
Узніме вецер угару блакіт нябёсаў
І там пачне люляць яго, як сцяг.

Пасля пачнуць спяваць у весніх строях птушкі,
Віць гнёзды, пра свавольных дзетак дбаць.
Зазіхацяць на тварах канапушкі —
Праменням сонца іх не зрахаваць.

На шпацыр выйдуць дзеўчыны ў гарошцы,
Дыхнуць парфумай капялюшыкі кабет,
І здасца свет такім бліскучым і харошым,
Нібы няма ў ім ані войнаў, ані бед.

* Esperanza (гішп.) — надзея.

### *8. Сонцу Шатландыі*

Цярпенне сее згоду паміж намі,
Мяцежнасць пхне нас у чысцец пакут.
Змірылася даўно: як Пётр святы з сырамі,
Вылынвае нячаста сонца тут.

Ды ўжо калі засвеціць, то да донца,
Калі сагрэе сэрца, то спаўна.
Лісты і кветкі — пацалункі сонца,
Ягоны плён — плады і ярына.

Плывуць па крохкай сіні ў далеч хмары.
Намудрагеліў штось мастак-шклароб:
Анёлы тут, а там — звяроў па пары,
Не разбярэш ці Ўшэсце, ці Патоп?

Малюся сонцу кожны дзень: «З’явіся!
Да мар наўпрост прабрацца сілу дай!
На вушка мне сакрэтам падзяліся
Пра свой зіхотны, прамяністы рай!»

### *9. Народзіны вясны*

Дыхнуў на горад першы ветрык вешні
З далёкіх і нязведаных зямель,
І закруціў квітнеючай чарэшні
Пялёсткаў лёгкіх завірушна бель.

У лесе сінявокія пралескі
Здаецца ладзяць гулі на гары.
Кусты і дрэвы спрэс малююць фрэскі
Чорна-рудой парэпанай кары.



Надзеў фарсун-арэшнік завушніцы.
У квецені схаваў калючкі цёрн.
Фіялкам й тым на месцы не сядзіцца —
Блакітнай плынню затапілі дзёрн.

Зрок наталіўшы маляўнічай флорай,
Назад, назад, тэатар выязны!
Як неахвота зноў вяртацца ў горад
З народзін цудадзейніцы-вясны!

### *10. Сакавік у Эдынбургу*

Лютуе *гейл* — імпэтны вецер з мора.
Ахутаны ў аблокаў пухавік,
За доўгую зіму аблезлы горад
Малюе зухавата сакавік.

Над морам захадаў расплывістыя барвы.
Вечназялёных дрэваў малахіт.
Для неба падбярэ дакладна фарбы —
Не бачыла нідзе такі блакіт.

Абвесціць ён выставу. Урачыста
З дажджом і сонцам-рэстаўратарам утрох
Пакажуць рад шэдэўраў гэткіх чыстых,
Ажно скрыпяць і скура, і нутро.

Аблашчыць Эдынбург вясны цяпельца,
І мімаволі шчыпле вочы штось…
Расце, расце ў грудзях нястрымна сэрца,
Каб гэткую ў ім змесціць прыгажосць.

### *11. 1 Мая ў Шатландыі*

Крадзецца ноч, як здань, па Эдынбургу,
Ды толькі сёння горад не засне:
Да ранку з песняй адзначае свята
Паганскае багіні Белтанэ.

Палаюць свечкі між гірлянд і кветак
І вогнішчамі ззяе Колтан Хіл,
Танцуе люд і круцяць Кола Года
Слугі і чыстых, і нячыстых сіл.

У стужках Майскі слуп, страшыдлы ў масках,
На дол ляціць вяночак з галавы…
Салодка паспытаць нашчадкам кельтаў,
Што значыць гэты звычай векавы.

Стагоддзямі між вогнішчаў на выган
На золку статкі гналі пастухі,
А Белую багіню разам з богам
Цнатліва прыкрывалі вербнякі.

Нясеш ты шчодра гоням урадлівасць,
Скаціне — пладавітасць па вясне.
Малітву ўсё жывое шле табе, як Маці,
Магутная багіня Белтанэ!

### *12. Квітнеюць верасы*

А ў жніўні тут успыхнуць верасы.
Люблю іх пах прыземлены і горкі,
Ружовыя лагчыны і лясы,
Шкарлатныя і белыя пагоркі.



Згадае нарачанскія бары
Глушэц у яркім апярэнні гладкім.
Ўзлятуць у россып трэскамі кары
Палёвыя рудыя курапаткі.

Зачаравана летняй цішынёй.
З суквеццяў гулка падае насенне.
Трымціць прастор між небам і зямлёй
Вясёлкаю шматкаляровых ценяў.

Па разубранай квеценню зямлі
Немітуслівым жыццялюбным крокам
Іду праз верасовыя палі,
Як сонца праз ружовыя аблокі.

### *13. У гарах Шатландыі*

«Прыгажосць не бывае чужою.» —
У натхненні выводзіць пяро,
Як занесла мяне за мяжою
На шатландскі пагорак — *мунро.*

Ні будынкаў, ні духу жывога.
Навакол — верасы й верасы.
Толькі мрояцца ў ветрах былога
Ваяўнічых плямён галасы.

Звычку меў тут навалай праходзіць
Іх пыхлівы і хцівы сусед.
Дух былога пралескам не шкодзіць —
На касцях сервіруюць банкет.

Убаку ад жыцця крутаверці
Думна дрэмле каменны крыж…

Толькі, вырасшы з гора і смерці,
Так буяюць трава і ціш.

### *15. Паўночныя Афіны*

Вось і выдаўся сонечны дзень!
Клёнаў летніх гасцінная брама
Запрашае ў плямісты цень
Піць гарбату ў кавярні ля храма.

Вокны ў храме, як соты вулля.
Сонца святасцю капае з рамак.
За смарагдавым цюлем галля
Каралеўскі хаваецца замак.

Свентаянаўскіх могілак ціш
Мажа вушы гаючаю маззю.
Спрэс пакрыты пахілены крыж,
Бы карункамі, кельцкаю вяззю.

Праз каменне раскрышаных пліт
Прарастаюць сцяблінкі ажыны,
І абсвечвае неба сафіт
Двайніка старажытных Афінаў.

### *16. Эдынбургу*

Загуба ты ці збавенне?
Высочваю з-пад павек:
Жыву тут адно імгненне,
А можа ўжо цэлы век?

Хто ты мне? Сябра ці вораг?
Звіхнулася насамрэч я:



Чаму вось за гэты горад
Чапляюся, як за парэнчу?

Мучылі явы і былі.
Душылі крыўда і плач.
Былі касцельныя шпілі
І скальпель, і заціскач*.

Вымеў атруту вецер
І загаіў душу…
Дзе б ні жыла на свеце —
Удзячны ліст напішу.

### *17. Паўночнае мора*

Мінулі гады, а здаецца, што сталася ўчора:
Шукаючы мрояў нязбытных, душу незнарок
Рассек напалам, наляцеўшы з Паўночнага мора,
Раз’юшаных хваляў іскрысты, булатны клінок.

Цяпер я не ўбачу іх побач, як месяц і сонца.
Не склеіць рассечаных разам, і, што ні кажы,
Аседлае «я» будзе вечна нудзіцца па роднай
старонцы,
І будзе ля мораў туляцца вандроўная частка душы.

Высвечвае месяц хмурынак бялюткія гафты.
Заснула ўжо ўсё, толькі мора ніколі не спіць
І густа-алейным дрэйфуючым водсветам нафты
Пад небам азораным мякка здалёку блішчыць.

---

* Я сабе ўяўляла так: калі касцёл з адным шпілем, то ён падобны да скальпеля, калі з двума — гэта ўжо заціскач.

На скалах марскіх хто так можа крычаць і галёкаць?
Гагарка? Чубаты баклан? Крываносы савук?
А можа другая палоўка душы мяне кліча здалёку,
І вецер над морам нясе той пранізлівы гук?

### *18. Пасвячэнне*

Я гэты край не назаву чужынай,
Мне ён дарадцам, шчырым сябрам быў:
Паіў, карміў і прыгаршчы ажынаў,
З муроў зыбраных, восенню дарыў.

Скакалі *jigs** гады' ў вільготных ботах
Між пустак верасовых, рэк і гор,
Ды толькі зноў дыхнуў вандровак подых,
Начы валынкі пратрубілі збор.

Няхай жа рвецца ў брамку вецер весні,
Заўсёды будзе званым госцем ён.
За новым лёсам, за няспетай песняй
Бягу я разам з ветрам наўздагон.

### *19. На раздарожжы*

Управіўся з абедам дробны дождж.
На полі гразь, ды і на сэрцы слота.
Ківае моўчкі развітальна хвошч,
Што змовіўся з вадой зрабіць балота.

* Jig (англ.) — шатландскі народны танец.



Іду праз поле ў ботах, як бацян.
У пульхны грунт быццам паклалі дрожджы.
Хлюпота так падобна да жыцця
З яго няпэўна-хісткім раздарожжам.

У небе не лунаем, як арлы.
Час бегчы з гэтай вечна мокрай дзюркі,
Бо станеш мохам Замкавай гары,
Ці камнем ззелянелага падмурка.

Змагаюцца астыглы глузд, гарачы пот.
Застацца? Не? — пытанне ў скроню б'ецца.
Тут з працы не чакае нават кот,
А з енкаў жаба кожная смяецца.

Паплакаў дождж, нібы па мне, і сціх.
І я па ім яшчэ не раз паплачу.
З сабой вазьму адгэтуль колькі кніг,
Ды гурт сланоў прыдбаных мной на ўдачу.

## Каханне на адлегласці

### *1. Мой caballero*

I

Кахання марам верыць ці не верыць?
Як пастка, для мяне алейны водар іх…
Мне сніўся смуглатвары caballero
З пажоўклых, як лісцё, гішпанскіх кніг.

Кастыльскай мовы кіпенная спёка.
Тут кожны гук, бы пошчак кастаньет.
Абрысы вежаў, як міраж далёкі,
І толькі пыл каню клубіцца ўслед.

Вар'яцкіх мрояў нават час не лечыць.
Не блякне вобраз ў шэрані гадоў.
Стаў лейтматывам нечаканай стрэчы
Вуллёвы гуд брытанскіх гарадоў.

Няма крыві гішпанскай, ні вугорскай —
Ёсць бездань хмельная паўднёвых чар,
Непрадказальны пал міжземнаморскі,
Нястрымная душа, смуглявы твар.

II

Сышліся летуценні і падман,
Сузор'яў бляск, гішпанскія гітары,
Прыгожых словаў хмельных дурнап'ян
І насланнё сярэднявечных чараў.

Усё яго аблічча — цяжкі грэх,
А ледзь прымружыш вейкі, будуць сніцца



То вочы, як мускатніку арэх,
То твар смуглявы колеру карыцы.

Было ў часы далёкія лягчэй
Хваробе гэтай даць якуюсь раду…
Не варацъ болей зелля ад вачэй,
Што б'юць намёртва з аднаго пагляду.

Праз ноч спакою не даюць і днём,
І з нетраў іх ідзе за хваляй хваля —
То прыпякаюць скуру, як агнём,
То быццам мажуць малаком міндаля.

Пазбавіцца хачу любой цаной
Ад словаў вабных і ад рысаў пекных:
Наканавана ж лёсам мне з табой
Гарэць бязвіннай у жахлівым пекле.

### *2. Ганцы ў Лондан*

Да цябе, у туманныя далі,
Хуткакрылых я вышлю паслоў,
З імі разам адпраўлю каралі
З найпяшчотнейшых, казачных слоў.

З белапёрага голуба дзюбы
Град пярлінак на дол сыпане.
Засмуткуе над імі мой любы
І ўздыхаць будзе доўга па мне.

Ненадзейнасць той ніткі адзінай…
Ледзьве круціцца дзён калаўрот…
І на поўдзень ляціць павуцінне
У свой сумны апошні палёт.

### *3. Каханне на адлегласці*

На світанку бязгучна-маркотным
Адгукнуўся твой голас праз сон.
Да цябе запішуся ахвотна
Ахмістрыняй на некалькі дзён.

Спакваля заблішчыць, як люстэрка,
Халасцяцкі студэнцкі пакой.
Стануць класікі важна ў лінейку,
Не збунтуюць сучаснікі строй.

Надвячоркам закончаны справы.
Цёмны горад, як здань, за акном.
І чаргуюцца вострыя стравы
З партугальскім зялёным вінам.

Нам з табой у абдымках бяссонных
Так утульна праз ноч буркаваць…
Ды бывайце, мой любы і Лондан!
Давядзецца яшчэ пачакаць!

### *4. Начныя думкі*

Ноч-свавольніца высуне рожкі,
Волю дасць адзіноце, журбе.
Уяўлю сябе дзікаю кошкай,
Што гуляе сама па сабе.

Вандравала па вулках заснулых
І каханне ўважала за ўлоў…
Як цябе ў паўзабытым мінулым
Адшукаць сярод зманлівых сноў?



Патануў ты ў прэм’ер касавіцы,
Заблукаў сярод роляў чужых…
А ці мог бы ранейшым прысніцца,
Хоць на момант, у сненнях маіх?

Праз дрымотна-світальную квецень
Твар каханы разгледжу ўгары,
Як далёкую зорку, што свеціць,
Хоць сама ўжо даўно не гарыць.

### *5. Брытанскай каралеўскай пошце*

Данёсся спеў дуды так голасна і ясна.
Радно стракатае тчэ восені варштат.
І памірае дзень, пакуль карціны маслам
Натхнёна, як мастак, малюе лістапад.

Як дрэва ліст, губляю пацалункі,
Там, дзе шуміць мой даўні сябра клён…
І, згробшы разам з лісцем, іх экспрэс-пакункам
Назаўтра ўжо табе даставіць паштальён.

Блішчаць сталёвыя драцінкі-павуцінкі.
Каб не будзіў суседзяў гучны Морзэ стук,
Тэлеграфую думкі-весткі ўздоўж гасцінца
Пушастымі хвастамі палятух.

Напоўніць чаркі дождж, нашэпча вецер тосты,
Дубы чупрыны схіляць спорна, як браты,
І за надзейнасць добрай каралеўскай пошты,
Сустрэўшыся, да донца вып’ем я і ты.

### *6. Абраз*

Прыпаўзнятыя бровы пытальна.
Сумны, любы да горычы твар.
Шарга лютая слоў развітальных
Спадзяванняў задзьмула ліхтар.

На вялізнай і люднай агоры*
Пад нагамі і ў сэрцах жарства.
Цераз пусткі, даліны і горы
З гэтай ночы іду без святла.

Ззяла зоркай у небе каханне,
А цяпер у аскепках ляжыць.
Джаліць сэрца пчалою пытанне:
Як без веры ў нешта пражыць?

Зраніць сэрца збавіцель Эль Грэка
Падабенствам пякучым не раз.
Пішуць час і туга з чалавека
Дасканалы і ўзнёслы абраз.

На дарозе пакутлівай церняў
Разрасліся густыя кусты…
Не апостал і нават не вернік,
Толькі мне ты амаль што святы.

---

* Агора (са старажытнагрэцкай мовы) — рыначная плошча, на якой збіраліся вольныя грамадзяне грэцкіх гарадоў-рэспублік для абмеркавання важных спраў.



### *7. Сардэчныя раны*

Жыву нязвыкла асцярожна.
Спакою крохкага фаянс
Разбіць раптоўным рухам можна:
Амаль спыніўся дыліжанс.

Стрымаць нялёгка жвавых коней.
Ідуць сцярожка, нехаця,
Бо іхні спешны крок праломіць
Лядок танюткі забыцця.

Раўней прывыкне сэрца біцца
За следам след, за годам год…
Каб зноў падступна праваліцца
У вір кахання, як пад лёд.

### *8. Экскурсія ў мінулае*

Дождж-лядзяш стрынгляваты і споры
(І не сорамна ў жніўні яму!)
Запрашае няветліва ў горад
Лета ўбранае пад зіму.

Хоць прамоклі ўжо ногі дазвання
І хадзіць так — наклікаць бяду,
Па забытых мясцінах кахання
На выцечку сябе я вяду.

Ногі ўспомняць маршрут бессаромны:
Парк сустрэч, Пацалункавы мост.
Тут, у гэтай кавярні, скаромна
Балявалі мы ў пятнічны пост.

На хвілінку звярну на цяпельца.
Тут усё як калісьці вакол.
Пачакаю ля стойкі прышэльца.
За мінулага сядзем стол.

На высокім чале завітушка.
Колькі жару ў вачах, колькі мар!
І віецца танюсенькай стужкай
Па запясці худым капіляр.

Бразне чаркай аб стол падавальшчык
І развее аптычны падман.
Рэчаіснасць нас кшталціць прапашча
Не вярэдзіць загоеных ран.

Не стаяць пад тэатрам у студзень,
Не чытаць ні анонсаў, ні кніг…
Успамінамі сыты не будзеш,
Як не будзеш сабою без іх.

### *9. Рэха мінулага*

Штось не склалася. Я і ты,
Хоць героі, ды з твораў розных,
І пісала табе я лісты
У юнацтва палац узнёслы.

Там ніколі не сеюць, не жнуць,
Пра жыцця не дбаюць умовы.
Там бясконцыя гімны пяюць
Карыфеям ангельскай мовы.

Хоць люблю я чытаць і пісаць,
Толькі ведаю больш пра фатыгу,



Бо часцей давялося сціскаць
У руках не пяро, а матыгу.

Да ахвяраў ахвочы не быў
Непахісны мой дух наравісты,
І таму не са мной ты дзяліў
Свой да поспеху шлях цярністы.

Прараслі на былым быльнягі.
На пачуццях — узлесак хвойны.
Толькі часам з гарматы тугі
Далятае снарад дальнабойны.

### *10. Раставанне*

Так самотна, што чайкай заплачу.
Да душы, да нутра дапякло:
Побач мы, ды нічога не бачыш,
Праз мяне ты глядзіш, як праз шкло.

На гастролі з тэатрам прыехаў,
Мой заклён спрацаваў тут наўрад:
Вас завабіў хімерамі Чэхаў
У «вішнёвы» квітнеючы сад.

Мо, нібы шпацыруючы гаем,
Завярнуць у памешчыцкі двор?
Толькі неяк жадання не маю
Слізгаць ценямі з твора у твор.

Абарву я вагання хвіліну
Пад таемным начы пакрыццём.
Бессардэчную мару пакіну
Жыць «сапраўдным» — сцэнічным жыццём.

### *11. Лісты кахання*

Няхай таемна шамацяць кусты
Пад вокнамі ад вечара да рання.
Уночы буду зноў чытаць лісты
Майго ў жыцці адзінага кахання.

Ў куфэрку выцвіў ліст і пажаўцеў.
Растаў, як пацеркі, драбнюткі почырк.
І не магу згадаць я, што хацеў
Сказаць пяра фігурны лёгкі росчырк.

Развеецца мінулае як дым.
Прыпомніла каханага і годзе.
Студэнтам застанецца маладым,
Хоць і яму ўжо ці не паўстагоддзя.

Ў бурштыне часу вобраз дарагі
Захрас навекі ў вобліку юначым…
І па табе не слёзамі тугі —
Пярлінкамі падзякі я заплачу.



## **Вандроўкі па Вільні**

### *1. Пралог*

Маланкай памяць жахне нечакана,
Асвеціць тут пагорак, там — лясок,
Гару крыжоў і вежу Гедыміна,
Вілейкі срэбнай слуцкі паясок.

Пярсцёнак часу адкручу нядбала,
Каб мерацць крокам абаронны вал,
Тушыць пажар, ці з гетманам-кларнетам*
Вянчаць ліхтарняй Новы Арсенал.

Часоў трыміты** глушыць летні вечар,
Ля Вострай брамы ўюцца цуды зноў.
Шумяць дубы і мудрасць векавая
Спіць чуйным сном ля іхніх каранёў.

Душы вандроўнай, вечнай пілігрымкі,
Ні каянню, ні жалю не змагчы…
І толькі хмаркі, бы грахі юнацтва,
Чародкаю бягуць удалячынь.

---

* Гетман-кларнет — Мікола Казімір Агінскі (1728–1800). Атрымаў гэтую мянушку дзякуючы свайму захапленню музыкай. Пад час яго ваяводства ў Вільні быў перабудаваны Новы Арсенал.
** Trimitai (літ.) — трубы, медны духавы інструмент.

### *2. Катэдральная плошча*

Вандроўку пачынаючы сваю
Па мілай Вільні пры любым надвор'і,
На Катэдральнай плошчы пастаю —
Князёў Вялікіх колішнім падвор'і.

Ў смарагдзе Гедымінавай гары
Рубін агністы адзінокай вежы
Гарыць, як напамінак той пары,
Што злой віхуры ў сэрцы не заснежыць.

Унізе гмахаў велічная бель,
Зіхціць палаца пышная спадніца,
Сабора нерухомы карабель
Салодка спіць пад мачтаю-званіцай.

Шуміць у дождж калонаў белы лес,
Урасло ў зямлю карэнне-кантрафорсы,
Ў акне, здаецца, нешта прамільгне :
Мінуўшчыны то цень ці Боны Сфорцы?

Гудзе кругом жыццё, як князеў млын,
Ссыпае ў мех гадоў і лёсаў мліва.
Вілейкаю бяжыць яшчэ адзін
Сталіцы любай летні дзень імклівы.

### *3. Новы Год на Катэдральнай плошчы*

Катэдральная плошча. Новы год
Абудзіўся ад сну пад ружоваю ёлкай
І ў поўнач салют, як раку крыгаход,
Запаўняе неба траскучай вясёлкай.



Чырвань водсветаў? Каменная кроў
Феерверкам з гатычных скляпенняў?
Каляровыя сполахі сноў?
Рэха гучнае адраджэння?

Паіскрыўшыся ў вітражы,
Адплываюць у Лету падзеі…
За ракой на пагорку Крыжы
Навагодняй бялеюць надзеяй.

### *4. Вострая Брама*

Не варта так ляцець, як на пажар —
Нікуды не збягуць ларкі і крамы.
Чароўнай Вільні незабыўны дар —
Хвілінку пастаяць ля Вострай брамы.

Даверыць і душу, і галаву
Анёлаў белакрылых мірнай раці,
Каб малітоўна ўзнеслі ёй хвалу —
Адзінай міласэрнай Божай Маці.

Струменіць сум з апушчаных вачэй,
А цёмны твар худы і добры гэткі.
Збягаюць вадаспадамі з плячэй
Убораў пышных залатыя кветкі.

Віецца ў промнях сонца срэбны гук
Узвышанай літаніі Манюшкі
І прагнуць хвалі скрыжаваных рук
Нябеснае дзіця пяшчотна гушкаць.

Яе дзіця памерла на крыжы —
Хай шлях у неба ўсім лягчэйшы будзе…

Ды верацъ не ў яго, а ў міражы,
Зблуканыя, разгубленыя людзі.

### *5. Касцёл Святога Казіміра*

У велічы адноўленых адзеж
Стаіць касцёл Святога Казіміра.
Няўцешны плач яго абцятых веж
Згубіўся ў мітусні людскога віра.

Люблю чуллівы над дзвярмі картуш.
Кранае сціпласць ранняга барока.
Чаруе вока купал-капялюш
І пышнасці яшчэ нясмелы дотык.

З-пад купала пасланнікам нябёс
Бруіцца ўніз святла іскрысты вэлюм
І ад вачэй хавае гронкі гнёзд
Цяністая лістота капітэляў.

Вятроў нямала бачыў і віхур,
І быў касцёла лёс — як карта ляжа,
Ў бядзе народ сцярог крапчэй за мур
У Вільню закаханы, светлы княжыч.

### *6. Касцёл Св. Архангела Міхаіла*

З Вялікай вуліцы сыду на дол
Наведаць роду слыннага магілы,
Што ў сутарэннях прытуліў касцёл
Архангела Святога Міхаіла.

На светлы тынк фасада занясло
Рукою майстра рупнага ці брызам



Нябеснага архангела крыло —
Бялюткае, як пер'е, лісце фрызаў.

Успышка фарбаў — велічны аўтар:
Перапляліся мармур з алебастрам.
Здаецца звонку завітаў цвінтар —
Букеты ззяюць белых руж і астраў.

Ён памятае ў сёлах за ракой
Пажараў водсвет, маскалёў набегі…
І сёння беражэ захінае вечны беражэ цяпер спакой
Вялікага і слаўнага Сапегі.

### *7. Віленскае Зарэчча*

Страчай гасцей, мастацкае прадмесце,
Анёл на плошчы і каменны мост,
Што, па разліку пільным, Маліноўскі
Пабудаваў калісьці «нападрост».

Бяжыць пад ім бруістая Вілейка,
Спявае дні і ночы напралёт,
Ёй часам сніцца млын велікакняскі,
Заводаў, фабрык, пільняў карагод.

Звіняць званы святочным пералівам:
На ймшу заве святы Барталамей*.
На Райскай горцы беларускім словам
Вітае ён дарослых і дзяцей.

Тут доўгі час праходзіў шлях шырокі,
Клубіўся пылам Полацкі бальшак.

---

* Касцёл святога Барталамея ў Вільні, дзе імша адпраўляецца на беларускай мове.

Цяпер суседзяў раздзялілі межы
І едзь ў аб’езд і конны, і вазак.

Усё радзей глядзіцца ў тыя далі,
Бо трэба ж гнёзды дзецям будаваць
І жыць далей, вучыцца новых песень,
Ў дарогу свежых коней пасядлаць.

### *8. Горад расце*

Там, дзе раней купалі вербы косы,
Дзе салавей кахання пошчак вёў,
Ужо і з найвышэйшых хмарачосаў
Не бачна ані пустак, ні палёў.

Муры абселі шчыльна кожны лапік,
Машыны назаўжды прагналі ціш,
Прагрэс няўмольны кранам касалапым
Прыроду спудзіў, як рудую мыш.

Знік успамін старой драўлянай хаты
З няўдзячных сэрцаў і з-пад новых стрэх…
А над прасторай крышку вінавата
Трымціць паветра бруднае, як грэх.

### *9. Прыгажуня Вільня*

Зноў скіне зімовыя шаты Вільня
І квеценню твар свой аздобіць, шляхцянка,
Ёй сонца ўсміхнецца, красуні, прыхільна
І клікне на шпацыр ісці Пагулянка.

Так пышна і ярка прыберыцца летам
І не хавае свой палкі нораў.



Толькі і студзяць, што кроплі кветак,
Ды прахалодныя вусны Зялёных азёраў.

Шчодра прыўкрасяць увосень маністы.
Жоўты да твару і чырвань чаруе.
Купал-карона царквы залацісты
Ёй, прыгажуні, да строяў пасуе.

Сцюжа да твару і шэрань тонаў,
Што аздабляюць у студзень і люты,
А над бялюткім карнізам франтонаў
Спяць завітушкі касцельных валютаў.

Надзеі шукаюць тут сцежкі-дарогі,
Грукочаць дрыготкімі пальцамі ў дзверы,
А вечарам сумныя думкі і здані былога
У мора на хвалях Вялля нясе — Нерыс.

### *10. Старая Вільня*

На будынкі прадмесця старога
Апусціўся туман, як радно.
Тут сучаснасць і цені былога
Неразрыўна зліліся ў адно.

Тут фіранкі з карункаў, як пена,
А з-за іх пазірае герань.
Каляровыя строі паненак,
Гаварлівыя лёсачкі пань.

Паабапал вузенечкіх вулак
Маляваных разьба ваканіц,
І нясецца ў паветры прачулы
Звон з далёкіх і блізкіх званіц.

### *11. Беларускае Купалле ў Вільні*

Катар мірна драмаў — за плячмі Белы мост
З капітанам сваім Даніэлем,
А цяпер за кармой пены прывідны хвост
І смугі бела-срэбнае вэлюм.

П’яніць водарам кветак купальская ноч:
Песні, скокі, агні, карагоды
Ад віленскага тлуму троху наўзбоч,
Там, дзе ў Нёман Вялля нясе воды.

Бераг рэчкі — пясок і мясцамі жарства,
І пад ногі глядзець трэба пільна.
Беларусь тут святкуе Купалле й Літва,
Слаўны Менск і чароўная Вільня.

Тут, па гэтай вось рэчцы, а не на кані,
Везлі прадзеды збожжа на рынак,
А цяпер не плыты — свечкі сплавяць уніз
Іх нашчадкі — з «Раме» і «Сябрыны».

Будзем мы варажыць, праз агніска скакаць
Аж да вусцішнай самай гадзіны,
А пасля разам папараць-кветку шукаць
Для сябе і для нашых Радзімаў.

### *12. Вялля*

Ці спявае душа з весялосці,
Ці задзьмуюць у ёй смутку вятры,
Завярну на хвілінку ў госці
Да сваёй стрыечнай сястры.



Да яе не патрэбны мне запіс —
Ў першы рад маю вечны квіток:
Ў нас з Вяллёй з дакладнейшых мапаў —
З беларускіх балотаў выток.

І на мосце каменным Міндоўга
Пад пяшчотны напеў вецяркa
Буду ў плынь углядацца так доўга,
Што адчую — сама я рака.

Іншай шчасцю не трэба прычыны,
Хопіць з лішкам, што плыць я магу.
Маладой даўгалыгай дзяўчынай
На спатканне да Нёмна бягу.

Мкнецца завісь пясочку і гліны,
Мчыць струмень зелянкава-руды:
Незалежных і гордых літвінаў
Захінаў ён калісь ад бяды.

Неба й хмаркі ў рацэ бы ў люстэрку.
Берагі ў чаратах і траве…
Вабных шэптаў сугучча замерла —
Бацька Нёман да мора заве.

### *12. Восенню ў парку Вінгіс**

Велічны парк у выгінах ракі, ён зімою і летам
зялёны.
Бягуць сцяжынкі па ім, як аксамітныя стужкі,
з боку ў бок.

---

* Вінгіс — вялізны парк у цэнтры Вільні ў выгінах ракі Вяллі (Нерыс).

Зухавата ківаюць з другога берага, са Звярынца,
агністымі галовамі клёны
Спакушаючы маладыя хвойкі ценямі
прашмыгнуць да іх праз масток.

Наводдаль калышыцца ад ветру ўтульны хмызняк,
бы стракатая паркалёвая занавеска.
Апошнім промням сонца падставіў бок
спарахнелы пень.
Ён яшчэ памятае гэты парк вялізным дрымучым
лесам,
Дзе звінелі галасы паляўнічых і яхкалі выжлы
з ганчакамі
амаль штодзень.

Шныпараць пад нагамі і бессаромна жабруюць
вавёркі.
Згаладнелы дзяцел заглушае стукам, як стрэлам,
жаллівы птушачкі плач
І нясуцца на самакатах і роварах бесклапотныя
дзеці з горкі.
У гэтай восеньскай выставе з нас кожны —
удзельнік, і кожны — глядач.



# Сядзіба

## *1. Часовы прытулак*

Прасторны дом, што будаваў пан Ляцкі,
Зямля і лес, ля сажалкі хлявы.
Пакорліва абрала лёс прымацкі —
Зямелькі той я толькі вартавы.

Хто ведае, наканавана колькі лёсам,
І ў іншы свет паклічуць нас калі.
Пакуль чакаем позвы ад бязносай
Сябе прынадзіць варта да зямлі.

Да пораў года мне прывыкнуць трэба.
Гаворку родную прыпомніць зноў,
І дотык стрыманы пясчанай глебы,
І камарыліі назольных камароў.

Зліюцца разам пачуццё і словы.
Што ні скажы — ўсё будзе не зашмат.
Ад водараў зямлі раўцы гатова.
І фарбаў выцвілых драўляных хат.

Шуканы доўга край чужы і родны.
Ружовашчокі гаваркі спакой.
І прагнуць больш, чым ёсць — немэтазгодна.
Бо ўсё на свеце — гэта тло і гной.

### *2. Малы, а бясконцы свет*

Я праз дзень да вячэрняй зары
Аглядаю з кубачкам кавы
Усё існае на двары —
Свет навокал такі цікавы!

Прызямліўся на самы парог
Матылёк, бы курачка-рабка.
У ваду як зялёны гарох
Сыпанулі з берага жабкі.

Ў гэты жаба-гарохавы суп
Мочаць качкі акраец хлеба,
І хістаецца велічна дуб
Бы малюе вяршыняй неба.

Раніцою прытупаў грыб
На палянку крамянай ножкай.
Упрыгожыў хусцінку шыб
Жук бліскучы зялёнай брошкай.

Ля дарогі ялінак раць —
Войска збеглае з нейкай казкі.
На стале ў букеце гарэць
Залатыя агеньчыкі-краскі.

Ён увесь, адсюль да шашы,
Умясціўся ў адно ваконца…
І кранае ўсе струны душы
Гэты свет малы, а бясконцы.



### *3. Карцінная галерэя*

Вясной шарую вокны, мыю шыбы.
Аправяць рамы поле, лес і стаў,
Заззяе шкло вясёлкамі і, нібы
Прыватны фонд гатовы да выстаў.

Крануты лес палітрай свежых фарбаў.
З вады хусцінкай рэдкай лёгкі пар.
Шэдэўр вясны — празрыстасць светлых барваў.
Чым не Манэ і чым не Рэнуар?

А гэта што? У траўні снег ды іней?
Вясна мяркуе павярнуць назад?
Аж не! Там, толькі на другой карціне,
У белай квецені суседскі сад.

Святла, надвор’я, красак зменам рада.
Мільгаюць тут малюнкі, як калаж.
Так і жыву: спякотным летам — Прада,
Вясною — Луўр, зімою — Эрмітаж.

Часамі ўсё ж сумненні закрадуцца:
Такая пышнасць праўда ці міраж?
Каб да карціны злёгку дакрануцца
Я з кубкам кавы выйду… у пейзаж.

### *4. «Трапічнае» лета*

Пакідала, здавалася мне, назаўжды
Зелень пальмаў і цёплыя хвалі
І чакала пранізліва-вострай нуды,
Толькі тропікі й дома дагналі.

Ні хмурынкі ў растопленым шкле не відаць.
Б’е праменнямі сонца, як токам.
Ў галавешку згарэўшы, гароды стаяць
І клянуць афрыканскую спёку.

Пад паветкай хаваецца цюцька руды.
Млосна пеўню — выводзіць зігзагі.
У калодзежы бліжнім ні кроплі вады,
Цымбравіны аж стогнуць ад смагі.

П’яніць водарам мёду паўночную ціш
Расквітнелая ў чэрвені ліпа,
І здаецца, што з неба паўднёвага Крыж
Ў нашых высях нахабна залыпаў.

Так і цягне даць з берага ў рэчку нырца —
Ў пекле жыць не давалі мы згоды.
Здратаваная палам дзікім да канца
Прохам просіць душа прахалоды.

### *5. Як добра пішацца пад дождж…*

I

Як добра пішацца пад дождж!
Не замінае праца песні,
Перад вакном вялізны лоўж,
Як абавязкаў мокры веснік.

Натхняе лес і вадаём,
Пакрыты раскаю іржавай.
І здасца: шчоўкну салаўём,
А не дык звыкла крэкну жабай.



Рагоча ў сажалцы бабёр,
Які здаўна тут гаспадарыць.
Баюся выйсці я на двор,
Аб гэтым можна толькі марыць.

Задумна ўдалячынь гляджу
Праз лёгкі цюль і дождж заложны.
Ля камінка ў цяпле пішу
Пра сонца бляск і падарожжы.

II

Без упынку пішацца —
Не дае ніяк
Зліве слоў суцішыцца
Нудны аблажняк.

Раўчукі радочкаў
Точацца глыбей —
Не пяройдзе пешшу іх
П’яны верабей.

Мне душу да бляску
Вымывае дождж —
Сябра дасканалы,
Змоўнік-касахвошч.

З капак крылы выраслі
Так, што не дастаць,
Каб у лазні венічкам
Спінку пахвастаць.

### *6. Прыгоды ў дажджлівы дзень*

Чарговы *stop* у вечным падарожжы
*Hello* суседзям, новаму жытлу.
Сягоння завітаў у госці дождж
І стукае па даху, як па шклу.

Спакой і рух удала хлусяць воку,
Ды ўрэшце й зманам гэта не заву:
Зноў праз дажджом цяжарныя аблокі
У яхце дома белага плыву.

Імчу праз гушчу хмараў, як праз воўну.
Штурвал не круцяць рукі. Балазе,
Вятрыска дзёрзкі ў Клайпеду ці ў Коўна
Пад ветразем няісным занясе.

Абціхне дождж. Зусім не будзе ветру.
Дапіша дзень прыгод наступны том.
Як ні прычым, уміг прыбраўшы ветразь,
Зноў на прычал часова стане дом.

### *7. У лес па вершы*

Толькі-толькі скончыўся дождж,
Гэтым месяцам, мабыць, першы,
Нецярпліва хапаю кош —
І гайда ў бліжні лес па вершы!

Сонца тне змакрэлыя спрэс,
Купы дрэў, аж паруюць шаты.
На рамонка венчык залез,
Быццам чмель, нейкі жук рагаты.



У гушчарні вецер прыціх.
Безліч тут сцяжынак-дарожак.
Адгадай, па якой цяпер з іх
Прабяжыць з важанятамі вожык?

Нехта крыкам збудзіў балатцо.
Мне карціць даведацца: хто там?
Пазнаёміцца з цуда-плыўцом
Падыду бліжэй да балота…

На развілку ізноў адкрыццё:
Хоць налева ідзі, хоць направа,
Верш чакае… маё ж жыццё —
Толькі вершам маім аправа.

### *8. Арол*

Да сажалкі паўзе памалу цень.
Стрычаю я ў сваёй сядзібе лета.
У градах зеляніны цэлы дзень
Важдаюся, па-простаму адзета.

З часоў дзяцінства ў вёсцы ля Пастаў
Не бачыла на небе столькі зорак,
А сёння днём раптоўна завітаў
З рэвізіяй арол на панадворак.

Мне ад яго няма чаго хаваць —
Абгледзеў двор і палятаў над хатай.
Што не знайшлося чым пачаставаць,
Сябе адчула крышку вінаватай.

Звер шастае ля вокнаў не адзін —
Ідзі пазнай свавольнікаў уночы,

А жаба, як маленькі кракадзіл,
З утульнай мяккай ціны лупіць вочы.

Ламаю глузд загадкаю быцця:
Чаму людзей сляпымі зладзіў, Божа?
Не бачым ледзь не да канца жыцця
Які наш свет багаты і прыгожы.

### *9. Вецер*

Сядзіба, праца і сунічны сон.
Мне адзінота — гонар, не апала.
Даўно ўжо разрадзіўся тэлефон,
А разам з ім і сеціва прапала.

Адзіны сябра мой — пісьмовы стол.
Не ведаю, што робіцца на свеце.
Учора ў поўдзень завітаў арол,
А сёння, нечаканым госцем, вецер.

Хадзіла я ці вецер пратаптаў
Сцяжынку там у зарасцях маліны?
Ён ёй на вушка нешта прашаптаў:
Прызнанне, жарт ці важныя навіны?

Спявае ў вадасцёкавай трубе,
Мяне трымае нейкім нэнзным госцем,
Увачавідкі чуе ён сябе,
Як свет, старым і важным ягамосцем.

Мо вестку з неба ён прынёс на дол?
Ці проста так хацеў мяне прывеціць?
Учора ў поўдзень завітаў арол,
А сёння, нечаканым госцем, вецер.



### *10. Ноччу ля дома*

Рассцілае чарнюткі атлас
Ноч, спачыну сястра і спакою.
Бы ў пярсцёнку вялізны тапаз,
Поўні дыск зіхаціць над шашою.

Цьмяцца ў прывідна-срэбным сяйве
Наваколля чужыя карціны,
І павыгнулі спіны свае,
За шашой, быццам коткі, яліны.

У чаканні гаючай расы
Ціха дрэмле стамлёны пагорак.
За бярозы густой валасы
Зачапілася першая з зорак.

На пагорку — закінуты дом,
Поўны крокаў рыпучых і вохаў:
Тут мяне доўга нейкі фантом,
Таямнічы, да смерці палохаў.

Ні дамоў навакол, ні людзей…
Як адной не памерці са страху?
Здасца — бразгае дзесь ліхадзей,
Глянеш — топчацца бусел па даху.

Запіваю былое кваском.
Крок на лесвіцу падае гулка.
І ласкавым заве галаском
Дом жаўтлявы, як здобная булка.

### *11. «Ганак» ля сажалкі*

Толькі сонца прамень зіхне,
Толькі вочы расплюшчыць ранак,
Нецярпліва чакае мяне
Маляўнічы ля сажалкі «ганак».

Шчэрыць ён свае зубы-пянькі,
«Ставіць ножку» куча кампосту.
Усё роўна іду нацянькі,
Цераз хлуд ступаю наўпроста.

Разарваў цішыню рэзкі гук —
З крыкам сеў журавель на хату,
А ля берага плавае сук
Бы з вады лезе сом вусаты.

Карасі затачыліся ў глей,
Вецер кратае бэзу гронкі,
А з каліны артыст-салавей
Рассыпае свой пошчак звонкі.

Спіць на ўгрэве, звіўшыся, вуж —
Не хачу неўзнарок яго спудзіць.
Па-гусарску залётны хрушч
Выпінае ў палоску грудзі.

Развялося ў лесе звяркоў,
Бліснуць вочкі з-за дрэў таямніча.
Ўлетку кракваў спакой і ныркоў
Не рассее стрэл паляўнічы.

Сяду з кубачкам, гляну наўсцяж:
Свет навокал жывы і рухавы…



І сцячэ на дамашні пляж
Раўчукамі духмянымі кава.

### *12. Панадворак вясной*

Разводдзе зноў падкралася да тыну
І шлёпае ў галёшах па двары.
Па берагах жаўцее пумпурына*
І пэнкаюць, як яйкі, пумпуры.

На рэдзенькім, зусім абцятым бэзе,
Яшчэ зялёных гронак барада.
Хоць сам усюды ён без спросу лезе,
Яго мне, абскубанага, шкада.

У кучы гною корпаюцца куры,
Бы хочуць падчыстую разграбсці.
Змаўляюцца вясковыя *сакуры,*
Каб спорна ўсім на зайздрасць зацвісці.

Абгорнуць хмары небакрай рупліва,
Як падарунак, срэбнаю тасьмой,
І на двары сатрэ вясновай злівай
Слядоў таропкіх плыткае вязьмо.

---

* Пумпурына — так у нас называлі калужніцу балотную. Мяркую, што слова ўтварылася ад літоўскага слова pumpuras, якое абазначае і пупышку, і бутон кветкі.

### *13. Жабін хор*

Не ходзяць пад руку вясна і цнота.
У траўні, толькі выглянеш у двор,
Пачуеш з боку бліжняга балота
Вясновы закаханых жабаў хор.

Тут непрыстойна проста ноты бэкаць.
Са скуры лезуць юны і стары.
І тужацца яны ледзь-ледзь не пэнкнуць —
На шыі раздзімаюць каптуры.

Ў найлепшыя сваёй прыроды шаты:
Прыбраліся вясной і янь, і інь.
І б'ецца голас-шпага за лупатых
Смарагдава-салатавых багінь.

Арфей балотны дорыць песню любай.
Не бачыць праз гарачкавы туман,
Што на яго даўно ўжо вострыць дзюбу
Залётны цёмна-шэры калашман.

Цікую праз яловыя галіны.
Праз ноч, баюся, не засну цяпер —
Маёй вясны далёкай успаміны
Збудзіў зялёны палкі кавалер.

### *15. У звярыным царстве*

Ламілася да мэты нібы трактар,
Дзе кругаля, а дзе і напралом.
Змяніліся і звычкі, і характар,
Калі ля лесу набыла я дом.



Па агародзе шастаюць казулі,
Памогуць бульбу выкапаць дзікі,
А на двары ля студні ладзяць гулі,
Ад'еўшыся за лета, барсукі.

Забыцца давялося пра пасадку
Заморскіх дрэў і яблынь з той пары,
Калі свае тут навялі парадкі
Ландшафтныя дызайнеры-бабры.

Звяр'я сябрына дзейнічае хітра:
У прыцемках пракраліся — і ўсё!
Пад вокнамі ў стаўку нахабна выдра
Суседзевых паела карасёў.

Звярынага жыхарства не баюся.
Здзічэла напалову ці на трэць.
І ўжо зусім, напэўна, не здзіўлюся,
Калі ў вакно пастукае мядзведзь.

### *16. У сваім гародзе*

Выйду ранкам у свой агарод,
Пачакаюць адвечныя справы:
Не прыспешваю час, бо народ
Тут жыве пракідны і цікавы.

Збеглі з град лайдакі-гарбузы,
Каб сваволіць між пышнай мураўкі,
Агуркі закруцілі вусы,
З лісця лаламі свецяць трускаўкі.

Пад лісточкаў зялёны атлас
Пахаваліся цнотна цукіні,

Разадзетыя ў шоўк, алтабаз,
Выглядаюць, як тыя княгіні.

Сачавіца не ганіць радоў,
Выступае так роўна, так слічна,
А па ёй ужо многа гадоў
Уздыхае кавун дыхавічны.

Самазванец і выскачка мак
Падахвоціўся хроніку весці…
Мы за лета зрадніліся так,
Што няёмка сяброў сваіх есці.



## Галасы дзяцінства

### *1. Куток старой Літвы*

Старой Літвы негаварлівы кут,
Радзімыя ваколіца і вёска.
Здаецца мне, сама зямелька тут
Свае сакрэты шэпча па-літоўску.

Глыбокі яр — па-простаму Даўбня —
Што мкне вясною раўчуковай плынню
І сакавіты поплаў Лігумá
Каля прылеску дальняга Лаўжыні.

Сівой хаваюць рэшткі старыны
Выгіны Вінгры — абмялелай рэчкі…
Дзе? Гэта толькі бачылі ўюны,
Ды з берага падгледзелі авечкі.

Дзяцінства пастуховая дуда
Парушыць сон і мроіцца мне потым
Тых колішніх авечак чарада
І след смугі над Дэкшняю-балотам.

### *2. Галасы дзяцінства*

Спеў чароўны глінянай свістулькі,
Гул забытых дзіцячых прыгод,
І «кальбекалі» штосьці бабулькі
Па-літоўску тады ля варот.

На памежжы прытуленых вёсак
Хаты думна пасталі ў рад,

І вялі жыхары шматгалоса
На вяселлях па-польску «sto lat».

Ўпершыню беларускую школу
Бачыў свет ля Камайкі-ракі —
І «зашпарылі» дзеці па сёлах
Складна так — слупянелі бацькі…

У люстэрка былога глядзімся,
Як сціскае нам сэрца нуда,
І не ведаю я, ці дзяцінства,
Ці таго шматгалосся шкада?

### *3. Наша хата*

Гэта — нашая хата.
Прывязаная на палосцы,
Старой каровай рагатай
Пасецца з сяброўкамі ў вёсцы.

Сям-там адляцела замазка —
Зеўраюць вокны, як раны,
Свежай жалобнай павязкай
Чарнее гарод заараны.

Поўняцца сенцы смуткам —
Сняць малалетняга бацьку,
Які схаваўся ў закутку,
Калі забіралі дзядзьку.

З болем глядзела хата,
Як працаваў звышурочна
Абеззямелены тата
За працадзень аброчны.



Сціхлі «Zdrowaś Maryji».
Вочы не цешыць квецень.
Паўміралі старыя.
Збеглі ў горад дзеці.

Выцвілі, пэнкнулі барвы,
І па начах здаецца:
Разам з аблупленай фарбай
Сыплецца з хаты сэрца.

### *4. Бярозка ля хаты*

Хоць не пісаў ніколі бацька вершаў,
Але рамантыкам заўзятым быў
І ў гонар ён сваёй дачушкі першай
Ля вуліцы бярозку пасадзіў.

Мы выраслі з сястрою хутка гэтак.
Цікаўнасць гнала моладзь з вёскі прэч
І толькі ў святы рэдкія ды летам
Была бярозка сведкаю сустрэч.

Штогод зімой на дрэўца падаў вэлюм,
Пад снегам стыглі кветкі і трава
І непрыкметна разам з імі беллю
Пакрылася сястрыцы галава.

Як час бяжыць — нашэптваюць паперы,
Крычаць асцягла змены навакол.
А ўсё ж гады найбольш балюча мераць
Бярозкі белай пачарнелы ствол.

### *5. Лядоўня пад лозамі*

Радзімы знак — купчастыя бярозы,
Задумлівыя вербы ля ракі,
А ў нашай вёсцы пераважна лозы
Раслі, хоць ладзь штомесяц Казюкі.

Зімой вяскоўцы шчыравалі з ломам,
Сякерай секлі ў Камаях лёд,
І ў зацішы, пад лозамі ў саломе,
Страчала нас лядоўня круглы год.

У карунках сала маладыя шынкі
Галавакружна пахлі гваздзіком.
Ўвабралі парсючыныя рабрынкі
Каляндры водар з вострым часнаком.

У адным кірунку вецер зменаў вее…
І я, дальбог, не цёмны рэтраград,
А ўсё ж такі саромеюся неяк
Лядоўняй зваць бяздушны агрэгат.

### *6. Дарога праз вёску*

Прыпомню ўсё — спякотнае пары
Пякельны пыл, вясною-ж і ўвосень
Дарогу разбівалі трактары
І гразлі фуры ў той дрыгве па восі.

Штогод пейзаж калдобінаў старых
Няўхільна залівала калатуха.
Плыла карова, як рагаты брыг,
І мужна багну рассякала брухам.



Ад цяжкай працы, бруду і нуды —
Хто камень кіне ў іх і хто асудзіць? —
Дзясяткамі ў мястэчкі й гарады,
Як ад іскры, наўгрунь ляцелі людзі.

Паблізу быў такі прыдатны кут,
Што сэрцам да сябе прыняў прыхільным:
Магчымасць «зачапіцца» тут
Знайшлі аднавяскоўцы ў Вільні.

### *7. Міражы былога*

Дзе вясковая бездараж наша?
Безграшоўе юнацтва, ты дзе?
Інтэрнацкая манная каша
Згатавана на чыстай вадзе?

На мясцах перагіб, альбо прогіб —
Для сумненняў ніякіх падстаў:
Абруселыя педагогі
Прыязджалі вучыць нас з Пастаў.

Пахла выклікам кожнае Свята —
Цікавалі ў касцёле віжы,
І за працу трывожыўся тата
Як прыходзіў нам ліст з-за мяжы.

Пакрысе ўладары да банкруцтва,
Як у прорву, краіну вялі…
Дык адкуль пачуццё, што чамусьці
Шчаслівейшыя людзі былі?

## *8. Карпацкая дывізія*

*Майму дзядзьку, байцу 3-й Карпацкай стралковай дывізіі, прысвячаецца*

Чытаю спіс: Adamczyk, Klos і Klosek…
Карпацкая дывізія стральцоў.
Падлеткі, хлопцы з беларускіх вёсак —
З іх лёс ляпіў то вязняў, то байцоў.

З сібірскіх лагероў пайшлі пад кулі,
Бо там чакала смерць усё адно,
І пад дажджом свінцу навек заснулі
Ў гарах Монтэ-Касына моцным сном.

Хто выжыў, тых раскідаў лёс па свеце,
Дамоў падступна быў адрэзан шлях,
І на чужыне, што сваёй лічылі дзеці,
Яны да смерці чуліся ў гасцях.

Рос боль разлукі горкай год ад году,
Ды давялося зноў ахвяраваць:
Адну з галоўных страцілі свабодаў —
Самім рашаць, дзе жыць і паміраць.

## *9. Дзядзька Юзэф*

Мой дзядзька Юзэф быў kováler знатны.
Дасціпны харашун, сам чорт не брат,
Ён быў да гуляў і да працы здатны,
Таму й не меў адбою ад дзяўчат.

Штопраўда, ён не вельмі й адбіваўся,
І ў час, калі хмяліў галовы бэз,



То да шляхцянак спрытна заляцаўся,
То праз вакенца да папоўны лез.

Старэйшы, ўдатны сын з багатай хаты…
Сыходзіў зайздрасцю сусед Міхал.
Як там было, але ў трыццаць дзявятым
«Врага народа» стрэў лесапавал.

Адтуль — у Палесціну і Влошчызну,
За шлях на Рым зацяты, страшны бой…
Забыўся хутка свет, якой вялізнай
За мір было заплачана цаной.

На фронце дзядзьку куля не забіла.
Багата-бедна жыў. Была сям'я.
Як родны край любіў, з якою сілай,
Пра гэта ведаў ён і, можа, крышку я.

## *10. На пашы*

Не! Не палохала ляха,
Як бы палоць не трэба пільна.
А ўсё ж да працы пастуха
З маленства неяк мела схільнасць.

Як толькі ранняя зара
Кранала небакрай ружовым,
Амаль што з кожнага двара
Ішлі заспаныя каровы.

Ў сабакі — хадуном бакі,
Дарма, што ён дварняк без роду:
Пры ім не лезлі ў буракі,
Ці ў іншую якую шкоду.

Адпачываць лажыўся гурт.
Я ж, прымасціўшыся на сачку,
Чытала ім братоў Ганкур,
Каб весялей жавалі жвачку.

Пілі паэзію нагбом.
Сярод славесна «падкаваных»
Не назіралася кругом
Такіх кароў адукаваных.

Заняткаў шмат і не да гульб
Было сышоўшы з роднай вёскі,
Ды не сустрэўся нейк дасюль
Мне лепшы хлеб за пастухоўскі.

### *11. Згубленая казка*

Зноў прыпомню: вясной бацька ў садзе араў,
Малаціў языком, як мянташкай.
Колькі сілы было, на ўсю вёску крычаў —
Кляў кабылу «лянівай юдашкай».

Хоць прыстаў да скаціны як нэнзны адзёр,
Не вяла яна вокам, ні вухам,
Бо яе гаспадар глотку моцную дзёр,
А ніколі і пальцам не рухаў.

Толькі выйшаў з хлявоў на траву маладняк.
Скачуць смешна-пацешна, як дзеці.
На сцяжынку за хатай суседскі вішняк
Асыпае ружовую квецень.

Высявалі рупліва насенне — у грунт
Ўсё яшчэ па-вясноваму гразкі…



Хоць наўрад ці знайду, пашукаць варта тут
Нейкай простай, ды згубленай казкі.

### *12. Ялінка*

Спыніўся шпаркіх санак бег,
Казычуць твар ялінаў голкі,
З аблокаў шчодра сыплюць снег
На дол руплівыя анёлкі.

З ялінак маладых адна
Сягоння завітае ў хату.
Пад ёй шчаслівая сям’я
Калядны зладзіць стол багаты.

Мужчыны йдуць калядаваць:
Вясёлы смех ды строй дзівацкі,
А на ялінцы зіхацяць
Немудрагелістыя цацкі.

Зямлі чарговы абарот
Знаёмую арбіту змерыць
І ля ялінкі ў Новы год
Чакае цуд таго, хто верыць.

### *13. Пах драўніны*

Наколькі дазваляў мне мой узрост,
З дзяўчынак дзвюх дужэйшая ў хаце,
За бацькам я заўжды «насіла хвост» —
Так з крыўдай лёгкаю казала маці.

Плуг ці сякера — цацкі ўсё яму:
Ён змалада быў моцны і здаровы.

Успомню, як на доўгую зіму
Увосень разам рыхтавалі дровы.

Парфум ялін над стрэхамі хлявоў
І вольхі дух за лазняю і хатай,
А да старанна скошаных ірвоў
Туліўся пах асіны гаркаваты.

Спявала нешта радасна піла.
Блішчэлі ў рад спявачкі ўвішнай зубы —
У нас іржой ніколі не цвіла
І паспяхова дужалася з дубам.

Сяброў адданых, працу і сям'ю
Пакінула, хоць сорамна мне трошкі.
Вярнулася дамоў, бо ў B&Q*
Дзяцінства водарам не пахлі дошкі.

### *14. Шаткаванне капусты*

Зранку румзае дожджык цыбаты
Сіратой пры паўночных вятрах.
Тхне парфумай капусты хата —
Звыклы позняй восені пах.

Патыхае кмен водарам лугу,
Морквы свецяць, як сонца, скрылькі.
Па стале разляцеліся кругам
Трапяткіх журавін матылькі.

---

* B&Q — чытаецца бэ-эн-к'ю — сетка брытанскіх гандлёвых цэнтраў, дзе можна купіць усё для дома і сада, у тым ліку і будаўнічыя матэрыялы.



Хай капустка задасца хрусткай,
Як забрузне пад гнётам квас!
Галаву завязаўшы хусткай,
Нам вядзьмарыць не ў першы раз.

А зімою настойліва гэтак,
Аж закруціцца галава,
Зноў зацягне думкамі ў лета
Шаткаванай капусты дрыгва.

### *15. Цудадзейныя лекі*

Дапякала я родных у хаце
Гучным плачам сваім ды ныццём,
Бо ўрадзілася ў бацькі і маці
Хваравітым ды слабым дзіцём.

Уздыхалі жанкі: «Не жыліца!».
Прадвяшчалі кароткі мне век
І стаяла святая вадзіца
На палічцы між зёлак і лек.

Ды не здаўся абставінам тата,
Мусіць «цёмны» не ведаў пра лёс.
Прабіваўся ў Свянцяны заўзята
У ліхую завею й мароз…

Часам сціснуць хваробы і змога,
Сэрца зводзіць ад крыўдаў і ран
І чакаю — вось-вось дапамогуць
Цудадзейныя лекі з Свянцян.

### *16. Хлеб дзяцінства*

Наш бацька марыў пра сынка,
А нараджаліся ўсё дочкі:
Не толькі тлустага блінка —
Ён мог пазбавіцца й сарочкі.

Кранулі бедныя гады:
Яшчэ заспелі хлеб на грамы,
У хатні — клалі жалуды,
Бо пусцінёй пужалі крамы.

Адзежы не знайсці і, каб
Прыбраць дачок, матуля з ліха
Уласнай кроіла ядваб
Сукенкі, званае «шуміхай».

У поўных крамах сёння ёсць
Усё, што трэба і не трэба,
Не купіш толькі маладосць,
Былых сукеначак і хлеба.

### *17. Дамоў летам*

Дамоў прыехаць летам — рэдкі цуд.
Агонь у вокнах, на слупе ліхтарня.
Здалёк хвастом віляе кожны кут,
А сэрца гулка б'е, як малатарня.

Калісьці тут, каля сянажных веж,
Са згоды гэтых зводніц застарэлых,
Душу працяў дашчэнту першы верш
І першыя Амура стрэлы.



Даўно, як сноп, жыццяя малоціць цэп.
Не клічу маладосць, бо не пачуе.
З чужых я дзежак ела горкі хлеб
І ведаю, дзе чорт начуе.

Мінулага не знойдзеш нават днём
Пад плотам ці сцяной плюшчом абвітай.
Лунае збожжа водар і чмялём
Гудзе сушарня ўвечар самавіта.

### *18. Мыццё падлогі*

Зрабіўшы ўсё, надвечар у суботу,
Як поле першабытным рагачом,
Падлогі дошкі гладкія да поту
Дубовым «урабляла» дзеркачом.

Ракой сыходзіў бруд, і ілюзорна
Крыху святлела ў хаце і ў вачах.
Мігалі зманліва сукоў сузор'і
І ап'яняў драўніны воглы пах.

Пацешуся — закончаная справа
І ў самы раз пачараваць цяпер:
Хай разляціцца водарнай прыправай
Пахошч з балота бліжняга — аер!

За печчу нехта раптам вечкам бразне —
Нашкодзіць зноў паспеў, напэўна, кот.
Я ж з венікам бярозавым у лазні
Дашчэнту выпару тыднёвы пот.

### *19. Пакінутыя хутары*

Закінутых сядзіб з зарослым садам
Прыхільніцай была я хараства,
Тым больш, былых гаспадароў уладу
Ігнаравала нашая дзятва.

Буяла там крапіва наравіста,
Вайстрыў дзядоўнік зубы і асот,
І мерна падступаўся лес цяністы
Усё бліжэй да саду з году ў год.

Затое спелі там якія бэры!
А вабіў як малiннiк ды вiшняк!
У свеце ўсім не знойдзецца паперы,
Каб апісаць належным чынам смак.

На месцы тым хіба што пара дрэваў.
Крычыць у вецці скрушліва груган…
І так тут вусцішна ад гэткіх спеваў,
Што й хутарышча скурчыўся курган.

### *20. Пачатковая школа*

Будынак сціплы пачатковай школы,
Бярвеністы вясковы ешыбод.
Са сцен навюткіх, першародна голых,
Каціўся ўніз смалы духмяны пот.

Свет бачыўся яскравым і бясконцым,
Адно няўцям някемлівым малым,
Што ўсё было — галактыкі і сонцы —
У тых празрыстых кропельках смалы.



Цягнуўся шыхт бяроз, як шэраг збежны.
З суседняга малога гарадка.
Здаваўся нам тады амаль замежным
Настаўнік з дзіўным прозвішчам Слука.

Пакой адзін змяшчаў чатыры класы.
Зімою з грубкі плыў сасновы пах.
Ад рогату нястрыманага часам
Дрыжэлі сцены і хістаўся дах.

Ужо тады, навобмацак няйначай,
З смяшынкамі прарвала недзе мех,
І цягнецца за мной заместа плачу
Каралямі бурштынавымі смех.

### *21. Паставы*
### *(На беразе Мядзелкі)*

Світанак. Дождж. Напаўзабытыя Паставы.
Гарлачыкі, чарот, трыснёг, аер.
Праз гладзь вады ў смарагдавай аправе —
Масточак між калісьці і цяпер.

Мігціць касцёл сваёй чырвонай вежай.
Размыты ўвесь дажджом царквы абрыс,
А млын стары прымaнівае ежай
І трункамі, на бок другі, кавярня «Брыз».

Як дзеці, шчыра плачуць вокнаў шыбы.
Прысеў на кукішкі блакітна-белы плот —
Здаецца гэта казачная рыба
Ў бязгучным крыку разяўляе рот.

Прамчацца цені лёгкія і знікнуць
З пастаўскага мінулага майго.
А можа мне таксама з рыбай крыкнуць?
Ад радасці? Ад смутку? Ад чаго?



## Звычайная трагедыя

### *1. Апошняя кропля*

Гэтым разам лавілі, не каб наракаць,
Што жыццё ты на марна патраціў.
Ўсей раднёю шукалі тры дні, каб сказаць,
Што памерла ў чацвер твая маці.

Ксёндз памазаў свянцонай вадой па ілбе
І адправіў з анёламі ў неба.
Тут няма што рабіць — свёкру так, як табе,
Апроч пляшкі нічога не трэба.

Галасіла па ёй, як па маці сваёй,
А, хутчэй, над сваім выла лёсам:
Што адзін толькі сорам з такою сям'ёй,
Што дзіця расце голым і босым.

Праз бяздолля гады зразумела адно:
Столькіх слёз аніводзін не варты.
Валачэш ты мяне, быццам камень, на дно.
Мне пакуты, табе ж толькі жарты.

Ўсё цярпела маўчком, не рубіла з пляча —
Толькі б быў лад і злагада ў хаце.
І не маю цяпер, што сказаць, апрача,
Што памерла ў чацвер твая маці.

### *2. Каларадскі жук жалю*

Боль у вачах, а ў сэрцы пустка.
Ляціць уся работа з рук.
Траўнуць бы жаль смяротным дустам,
Каб здох, як каларадскі жук.

Замена кволаму каханню…
Мне б ногі ў рукі ўзяць — і ўдаль!
Ды ад няшчырых абяцанняў
Сцяной да неба ўзняўся жаль.

Яго гартаю я, як трэбнік.
Пара ўжо вызубрыць урок —
Што ён бязбожнік і нахлебнік,
Бясконцых спачуванняў цмок.

Ў далёкі край за сінім морам
У бок адзін квіток куплю,
Інача жаль, мой люты вораг,
З сабой зацягне ў пятлю.

### *3. Зімовай ноччу*

Бясконца цягнецца зіма
Няўтульна-перамерзлай воўнай.
Цябе ж усё яшчэ няма,
Хоць час пераваліў за поўнач.

Ні мар, ні мэты, ні жыцця..
На свет цікую з-пад фіранкі:
Сняжынкі стомлена ляцяць,
Крывавяць зор далёкіх ранкі.



Зайздросціць месяцу ліхтар:
Які ж пыхлівы ён і горды!
Што там? Крывёй заліты твар?
Скрывянілі чыюсьці морду?

Цямнее плямай на двары
Кустоў абцятых шчыльны голік.
Здаецца: ў шэрым гушчары
Замерз бяздомны алкаголік.

Відаць, не давядзецца спаць.
Успомню ўсё і — палкі-ёлкі! —
Пачну каля вакна скакаць
Праз ноч усю, як на іголках.

### *4. Вяртанне назад*

Нейкім цудам унікла бяды,
З галавою і з целам парадак.
Дык адкуль, мне скажыце тады,
Гэты прыкры на сэрцы асадак?

Без дрыготкі вярнуся назад,
Ды, здаецца, спакою не рада,
Бо з усіх мною выпітых здрад
Тут жыве найгарчэйшая здрада.

Плошча шчэрыць фантанаў клыкі
Там, дзе крочыў у заўтрае Ленін.
Высалупліваюць з іх языкі
Мне былога пачварныя цені.

У зімовым дарог тварагу
Захрасаюць да вокнаў машыны…

Да сябе тагачаснай бягу
Я па тоўчаным шкле ўспамінаў.

### *5. Звычайная трагедыя*

Часам і ёй, і яму падкоціцца крыўда комам.
За дзяцей, як за зброю, хапаліся ў сутычках не раз.
Шугала нянавісць з душы, як з бабагарскага
разлому
І гэтак жа падступна выходзіў нябачны таксічны
газ.

Як апантаны вучоны над ланцуговай рэакцыяй,
Не пакладаючы рук, працаваў самалюбства крот.
І ўсё для таго, каб у смяртэльнай канцэнтрацыі
Запоўніць самаапраўданнем цесны свядомасці
грот.

І аднойчы бабахнула так, што разляцелася хата.
Шклом пырснулі шыбы і пэнкнуў апошні гляк.
Не хопіць жыцця, каб дакладна павымераць
страты.
Няма вінаватых, злачынцаў… здараецца й так.



## Край магчымасцяў

Мярцвеюць спіна і мазгі ад такой перагрузкі:
Пякельныя ляскат, і грукат, і спраў гламазда.
Занятасці грунт абярнуўся падступным і грузкім:
Тут з працай «гамон», а без працы таксама бяда.

Запомняцца з жахам урокі сучаснага рабства,
Дзе з кубачкам кавы і штучнай усмешкай цівун,
Дзе, як не працуй, не набудзеш пасад, ні багацця,
Дзе жарт і пагляд б'юць балюча, як востры бізун.

Каляды, Вялікдзень, нядзеля і вечар на працы.
Дазвання забылася, як выглядае касцёл.
Адно суцяшае: навокал снуюць партугальцы —
У пекле з сябрамі патраплю ў агульны кацёл.

Іх свет нескладаны, дзе дух камарадарства моцны,
А скончыла школу хіба што якое дзяўчо.
Ды тут не дыплом у сяброўства дае правамоцтвы —
І кожны твой сябра, хто ў працы падставіць плячо.

Ідзе незваротны працэс непатрэбных мазгоў
абнулення.
Зрабілася цела нячуйным, як моцны і гнуткі метал.
Магчымасцяў край і свабодаў увасабленне?
Хіба што сытней, чым капальня, ці лесапавал.

## Хвіля песімізму

Не дапаможа каўчэг. Звар’яцелі надвор’е й сезоны.
Прыродныя паясы ціха сышлі ў графу
«без асаблівых прыкмет»,
Толькі бясшумна зрываюцца зашмальцаваныя
шматы азону
І ляцяць праз чорныя дзюры ў паралельны сусвет.

Малоцяць ураганы, як жытнія снапы, краіны
і народы.
У Сахары задуменна сузірае белыя гурбы
вярблюд.
Абыякава сочаць здалёку сквапныя лялькаводы
Як на іх карыслівых войнах гіне падмануты люд.

Самазадаволеныя дыктатуры і дэмакратыі.
Людзі маленькія і нязначныя.
Не было Халакосту і, магчыма, Хрыстос
не ўваскрэс.
Лье атруту ў вушы друк і мазгі прамывае
тэлебачанне
Так, што ўжо верыць у што-небудзь згубіла сэнс.



## «Белая варона»

*Мастачцы Галіне Сівалавай*

Дарослых блазь ці піск дзяцінны
Пяро змушаюць пабялець
Ў такі нахабна-лебядзіны
Прыкід, што проста абаўрэць.

Пашлеш закляцці ці праклёны…
Ды, зрэшты, сёння не аб тым —
Была ты белаю варонай
І ў апярэнні варaным.

Зіхцяцца золатам слядочкі…
Хто выбіў снег тут, як папар?
Відаць пахаджвае тут ночкай
Круты варонін алігарх.

Сядзім па шчылінах і норах
І дбаем больш пра свой катух.
Няхай жа хоць з карцін да зорак
Ірвецца птушкай вольны дух.

## Сучасная магія

А вы верыце ў чары? З цудамі значна прасцей:
Атрымаў пячатку ў нябеснай канцылярыі —
і наперад!
Чараўнікі ж — гэта агідныя ведзьмары
і вядзьмаркі,
што на сняданак смажаць дзяцей
І, напэўна ж, сваёю крывёй падпісалі з нячыстым
паперы.

Павукі ды жабы, сушаных зёлак галавакружны
пах,
У кутку — прываротнага зелля кацёл непамерны.
Як і раней, грызе вантробы перад невядомым
адвечны жах.
Палаюць кастры з людской пагарды і недаверу.

Сёння называем матэрыялізацыяй негатыўных
думак праклён.
Такая ж самая сутнасць. Змянілася назва толькі.
І ў кожную частку душы і цела, як заклён,
Піхаем альтэрнатыўнай медыцыны іголкі.

Невыносна марудзілі адказныя рэферэнты,
каб навукова абгрунтаваць быццё,
І напрыканцы ўсклалі віну на бедалагу прымата.
Як тут абысціся без веры і магіі, перапялёсай,
як само жыццё,
Што дзеліць усім паводле патрэбы:
каму малітва ці залом,
а каму — валяр'янка ці *пацыфлора інкарната.*



## Стома

Зніклі дзесьці бадзёрасць і сіла,
Безліч спраў галаву закруціла,
Дзе сягоння, дзе заўтра, дзе ўчора?
Значыць час адпачыць каля мора.

Коней спраў неадкладных распрэгчы
І на дно нерухома залегчы
Без вай-фаю, без кніжак, без вуды,
Не выходзіць з нікім анікуды.

Не жадаю суцешак народных,
Ні музычных, ні пляжных, ні водных,
Толькі б цешыцца воднымі далямі,
Ды сачыць за лянівымі хвалямі
І чакаць, пакуль сонца закоціцца,
Без прычыны ўздыхаць і маркоціцца.

## Баюся трапіць у палон…

Баюся трапіць у палон,
Свабоду і натхненне страціць,
Рахункаў вабны сон не плаціць,
Баюся трапіць у палон.

Баюся нечаканых змен,
Пачуццям ненаўмысна здрадзіць,
Ім час вуздэчку не прыладзіць,
Баюся нечаканых змен.

Баюся ў доме цішыні,
Варагаваць няма прызвання,
А помсціць — марнае старанне,
Баюся ў доме цішыні.

Баюся сэрцам ачарсцвець,
Недаравальнае прабачыць,
У час няшчырасці не ўбачыць,
Баюся сэрцам ачарсцвець.



## Бессань

Зноў замучала бессань дазвання,
Не даклікацца ранку ніяк,
А душу раздзіраюць жаданні
Зграяй хіжых галодных сабак.

Палахлівыя мары і згадкі
У бязладдзі ледзь чутна гучаць.
Назаўжды застаецца загадкай,
Як працьлеглае спалучаць.

То пужае сустрэч скарацечнасць
(Шчасце ж нельга лічыць на гады),
То палохае здрадліва вечнасць
Гучным словам пустым «назаўжды».

Глухнуць палкія хвалі пяшчоты,
Рассыпаюцца перламі слоў…
І кружляе ўначы адзінота
На нястомных абцасах часоў.

## Дзявочыя сны

Спякотны дзень, ружовы сад — дзявоцтва сны.
Гады ў іх так мільгаюць, як імгненні.
Няма там прагнасці, няма маны
І зайздрасці жахлівых сутарэнняў.

Патрошку глузд пачне рабак тачыць,
Плынь перадужаць сілы не хапае.
Гразь неяк непрыкметна да душы,
Як да фурманкі колаў, прыліпае.

І нашай тут амаль няма віны,
Што храмаў тых усё далей званіцы,
Што з кожным годам нам у тыя сны
Дастукацца цяжэй і дазваніцца.



## У лаўцы старызны

У вырабаў старых свая закваска.
Разьблёны куфар, калаўрот, чыгунны прас.
Не гарантыйны тэрмін ім указка,
Дый змайстраваны большасць на заказ.

Далёкі час, калі ў майстэрні чаднай
Машынны век таптаўся ля дзвярэй,
«Слуп» местачковы, рупна і ашчадна
Над скураю карпеў стары габрэй.

Кляйно ляпіў рамеснік ганарліва,
Любоўна гладзіла рука шурпаты спод.
Характар, выгляд рэчаў — асаблівы,
Бо ўклалі ў іх сваю душу і пот.

Сучасны выраб — матылёк-падзёнка,
Бліскучы й безаблічны шырпатрэб,
Парад назоваў гучных, марак гонка,
Тавар, адштампаваны наадчэп.

Стаіць у лаўцы пах прыплеснявелы.
На жыхарах — іржа былых гадоў…
Ды маладосцю блісне зрок здранцвелы,
Успомніўшы старых гаспадароў.

## Залатагрывы конь

Дадждлівым днём, на плошчы, у нядзелю,
У сімпатычнай цёткі з Астраўца,
Гуллівага і не сказаць, што ў целе,
На кірмашы купіла жарабца.

У нашай справе шкодзен конь бакасты,
Пахмуры волат, дужы, як КамАЗ.
Каб гарцаваць па сцежках пакручастых,
Хутчэй ужо спатрэбіцца Пегас.

Нашу з сабой парфуму і бялілы —
Магу жыццё прыўкрасіць, як санет.
Хай у майго каня нябачны крылы:
Ён лётае — і гэта наш сакрэт.

Як мне, яму на месцы не сядзіцца —
Сюды-туды па бруку скок ды скок.
І цеплынёй на сонцы залаціцца
З саломы лёгкай змайстраваны бок.



## Чорны кот няўдачы

Няйначай, як варон лавіла мытня,
Разявіўшы ружовы шчыры рот,
Таму, схаваўшыся ў валізцы, спрытна
Са мной мяжу праехаў чорны кот

Клапот-згрызот на новым месцы куча,
Ды і штодзённых спраў не дэфіцыт.
А ён падступна ліжа хвост бліскучы,
Чарнюшчы ўвесь, як вугаль-антрацыт.

Папіў той цмок крыві маёй нямала.
Абгрыз, абдзёр, спаскудзіў кожны кут.
І доўга на шляху яго страчала
Няўдачы ценем змрочным там і тут.

«Не руш мяне!» — яго маліла глуха.
Пацісну лапу шчыра: «Будзь здароў!»
Ціхутка муркаў і мяне не слухаў,
Пакуль не злапаў добрых кухталёў.

Цяпер усіх брыкаю наравіста,
Хто ні падлезе, кот ці канакрад.
Быць перастала белай ды пушыстай —
Пайшло жыццё зусім на іншы лад!

## Anatidaephobia*

Нестае толькі ўпасці ў запой.
Пры канцы апаўрына пачка.
Падаецца: усюды за мной,
Не мігаючы, сочаць качкі.

Дзе наберышся сілы спытаць,
Хто паслаў і чаго яны хочуць?
З-пад кустоў і з-за дрэваў блішчаць
Ненажэрна качыныя вочы.

Прасачыліся ворагі ў дом:
Тут, здаецца, ляжыць адымачка.
Насамрэч, у кутку пад сталом
Прытаілася здрадніца-качка.

За раялем — маэстра Бэнс.
Пасярод мадзьярскай гарачкі
Набывае злавесны сэнс
«Каб цябе затапталі качкі!»

Чышчу маўзер, павешу званы
На гарышчы роднае хаты.
Прачытала ў газеце: «яны»
Набылі за мяжою гарматы.

У сакрэце вядзецца вайна
Ад такіх вось, як я, дзівачак.
Ўсе краіны ўжо, як адна,
У палоне ў драпежных качак.

---

* Anatidaephobia — панічная боязь, што за табой заўсёды сочыць качка. Тэрмін прыдуманы амерыканскім гумарыстам Гарры Ларсанам (Garry Larson) у 1988 г.



## Luposlipaphobia*

Шчырую ў хаце нібы ў полі вол —
Да бляску воскам тру падлогі дошкі.
Пасля саджуся за кухонны стол,
Каб адпачыць ад цяжкай працы трошкі.

Ад гэных скокаў упацеўшы так,
І ліхаманка выпадак нярэдкі.
На мне, як на габрэі, лапсердак,
А на нагах — суконныя шкарпэткі.

Прыліпла мне цыгарка да рукі.
Басэтля недзе хораша іграе…
Як з неба гром: выскокваюць ваўкі —
Галодная пачвар зубастых зграя.

Наскрозь працяў усю халодны пот,
Дых адняло і закруціла ў брусе.
Да запаведных «мэ» і «жэ» варот
У час ужо наўрад ці дабяруся.

Я ўкруг стала лятала як магла.
Дальбог жа, не здавалася без бою,
Каб дошка мармуровага стала
Не стала мне магільнаю плітою.

---

* Luposlipaphobia (анг.) — жах, што за табою ганяюцца ваўкі ўкруг кухоннага стала па толькі што навошчанай падлозе ў той час, калі ў цябе на нагах суконныя шкарпэткі. Тэрмін прыдуманы амерыканскім комікам Гары Ларсэнам ( Gary Larson).

## Новы год у Кракаве

Зімовы Кракаў. Віслы бераг левы.
Ні крышку снегу. Нудная імжа
Чаргуецца вадохрышчам з залевай
Зусім не навагодняга дажджу.

Гары Вавельскай сум і халадэчу
Сагрэлі ні то мары, ні то сны:
У прывідных вазках сярэднявечных
З'язджаюцца вяльможныя паны.

Ў агнях зіхціць кунтуш з саеты воглы,
Іскрыцца срэбнай ніткаю жупан,
І велічна ступае: шабля ў похвах,
І мухі ў носе — гэткі важны пан.

Знатнейшых гонар й каралю *przywitać,*
Хоць часам больш ў кішэні, чым ілбе.
Краін скруцілі лёсы — не адблытаць,
Бо дбалі больш, вядома, пра сябе.

Гасцінны дух праменяць *Sukiennice,*
І варты брак ля гарадскіх варот…
Ну як мінулым тут не ганарыцца
І як не завітаць пад Новы год?



## Францішку Скарыне

Спаміж сотняў прыўкрасных краінаў і моў
Навізна звабіць вуха залішне.
Здасца мне — далятае дакорам з вякоў
Голас палкі Скарыны Францішкі:

«Любяць пчолы свой вулей і чуюць самы
Вір глыбокі — прыстанак свой родны.
Кожны любіць свой край, дзе радзіліся мы,
Не інакш, з воляй Божаю згодна».

Шлях скарынаўскі — прыклад яскравы для нас,
Як зямлі роднай добрым быць сынам
Ці дачкою, калі апярэдзіў свой час
І таму змушан жыць на чужыне.

Пчолкай рупнаю, думкай ўзлятаў да нябёс.
Ўся Еўропа была яго кветнік.
Гэтай мудрасці мёд на Радзіму ён нёс —
Друк і мову — ўсё даў нам асветнік.

Сэрца пал наталіць — слоў чужых не стае.
Мова родная — лустачка хлеба…
Толькі сорамна: ледзь не згубілі яе
І не цэнім заўжды так, як трэба.

## Грунтоўка

Чаляднік рыхтаваў нядбайна фон.
Грунтоўку клаў ён крыва і нягожа…
І ўсё ж карціну вабную, як сон,
Мастак стварыў рупліва і прыгожа.

Дакладна штрых лажыўся, акурат
Дзе быў мазок то ўзгорысты, то рэдкі.
Зрабіў з падцёкаў брудных вадаспад
І пекныя з размытых плямаў кветкі.

Ад холаду дрыжэў ці ліўся пот?
Паддашак гэта быў ці сутарэнне?
Ён, мабыць, не заўважыў перашкод,
Бо пэндзаль накіроўвала натхненне…

Карціць прагнаць падручных за агрэх,
Каб дасканалымі былі і грунт, і заднік…
Але злаваць на іх — смяротны грэх,
Калі імя «Жыццё» меў той чаляднік.



## Жыццё без акуляраў

Вясёлкай фарбаў і таноў
Пераліваюцца абшары,
Не бачна рэчаў — бо ізноў
Свае згубіла акуляры.

Там за адрыняю гілі
Агнём палышчуць на саломе?
Ці толькі зманліва гарыць
На вераб’ях заранкі промень?

Здаецца прыгажэйшым свет,
Нязвыкла правільным і годным,
Калі з-пад спушчаных павек
Размыты толькі бачыш контур.

Надзеяй свецяцца сады,
Любоўю палымнеюць далі…
І ты з запалам маладым
Зрок не марнуеш на дэталі.

* * *

Жыццё, ты — імгненне, ты — ўспышка,
След знічкі на фотапаперы.
Тэатр, дзе няма рэпетыцый:
Ёсць толькі прэм'еры.
Кіно, дзе мы самі сабе рэжысёры,
І блытаюць ролі нашчэнт самавукі-акцёры.



## Змест

12+


*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Марцінш душ Рэйш** Ванда

МОРА МАРЫ

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Мінкін*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *??*

Падпісана да друку 20.02.2020. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ум. друк. арк. 7,14. Ул.-выд. арк. 4,08.
Тыраж 300 экз. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 249-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86, e-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.